# ПАГОНЯ

Чацвер
1 чэрвеня 2000 г.
№ 19 (466)
Кошт 70 рублёў


## Справаздачу прымаў Ярмошын

**Справаздача аб працы Гарадзенскага аблвыканкама па падрыхтоўцы да ўборкі ўраджаю 2000 года было заслухана на выязным пасяджэнні прэзідыума Савета Міністраў.**

Яно адбылося 26 мая на базе сельскагаспадарчага калектыўнага прадпрыемства «Прагрэс» Гарадзенскага раёна пад старшынствам прэм'ер-міністра Беларусі Уладзіміра Ярмошына. Паводле звестак ПАГОНІ, у парадак дня пасяджэння былі ўключаны таксама пытанні аб неадкладных мерах па падрыхтоўцы да ўборкі ўраджаю збожжавых, зернебабовых і іншых сельскагаспадарчых культур і правядзення севу азімых пад ураджай 2001 года.

З дакладамі на пасяджэнні выступілі старшыня Гарадзенскага аблвыканкама Аляксандр Дубко і першы намеснік міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Вадзім Папоў. Перад пачаткам пленарнага пасяджэння члены прэзідыума Саўміна наведалі Мінойтаўскую базу міжрайаграпрамтэхнікі Лідскага раёна, дзе азнаёміліся з арганізацыяй рамонту корма- і збожжаўборачных машын і працэсам вырабу запасных частак да іх.

Кіраўнікі таксама наведалі дзяржаўнае прадпрыемства «Лідаграпраммаш», дзе арганізавана вытворчасць збожжаўборачных камбайнаў маркі «Кейс-525Н». Апрача таго, удзельнікі выязнога пасяджэння прэзідыума азнаёміліся са станам пасеваў сельгаскультур і ходам падрыхтоўкі матэрыяльнай базы да ўборкі збожжавых культур у калгасе «1 Мая» Шчучынскага раёна Гарадзенскай вобласці.

Ірына Сазановіч

## Школа №14 - рассаднік вундэркіндаў

**Трыццаць два выпускнікі з трох класаў гарадзенскай школы N14 будуць абараняць права атрымаць па заканчэнні залатыя медалі. На жаль, вартасць медаля сёння значна знізілася - вышэйшыя ўстановы краіны больш не прымаюць медалістаў без экзаменаў, як было раней, альбо пры выдатным выніку профільнага экзамена.**

Нагадаем, што сярэдняя школа N14 спецыялізуецца ў паглыбленым вывучэнні ангельскай мовы.

Сяргей Самасей

## У Зэльве не хапае стаматолагаў

**У Зэльве няма дантыста-хірурга.**

На пытанне, калі ён з'явіцца, галоўны ўрач Зэльвенскага ТМА Андрэй Фрэйберг адказаў, што «дзесьці праз год». Патлумачыў гэта тым, што на Гарадзеншчыне не хапае дзесьці каля 60-ці стаматолагаў.

Цікава, што сёлета ніводны выпускнік зэльвенскіх школаў не пажадаў пайсці вучыцца на дантыста, хаця для паступлення мясцовае ТМА дае мэтавае накіраванне. Прычына - нізкія заробкі медыкаў (у сярэднім 22-25 тысяч рублёў).

## АГП набірае абароты

**29 траўня 2000 года ў Гродне прайшла справаздачна-выбарчая канферэнцыя Гарадзенскай гарадской арганізацыі Аб'яднанай Грамадзянскай Партыі.**

Абраны новы кіраўнік партыйнай арганізацыі. Ім стаў Алег Падгаецкі.

Ул. Інф.

### НАДВОР'Е

**2, 3 чэрвеня** - пераменная воблачнасць, месцамі - ападкі, вецер паўднёва-ўсходні, 4-9 м/с. Тэмпература паветра 2 чэрвеня - уначы +5...+10, удзень +20...+24; 3 чэрвеня - уначы +7...+12, удзень +21...+26.

# Анджэй Пісальнік працягвае змагацца за «Рэпарцёр» з бюракратамі

**У мінулую пятніцу, 26 траўня, а 14-й гадзіне, на ганку гарвыканкама наладзіў пікет Анджэй Пісальнік, рэдактар газеты «Рэпарцёр». Ён пратэстуе супраць таго, што гарадзенскі гарадскі выканкам насуперак закону перашкаджае рэгістрацыі «Рэпарцёра», адмаўляецца выдаць даведку пра месцазнаходжанне рэдакцыі. Скарга А.Пісальніка ў абласны выканкам не прынесла вынікаў. Рэдакцыя «Рэпарцёра» з дапамогай Беларускай асацыяцыі журналістаў (БАЖ) склала спазыск у суд, які будзе пададзены бліжэйшымі днямі. Пакуль жа журналісты вымушаны прыцягваць увагу грамадскасці праз пікеты.**



Анджэй Пісальнік і ягоны сын Якуб патрабуюць зарэгістраваць газету «Рэпарцёр». Палкоўнік Станіслаў Васілеўскі просіць супакоіцца

Гэты пікет не быў санкцыянаваны, і зноў жа, як паведаміў А.Пісальнік, выканкам парушыў закон пры забароне пікета. Праз пяць хвілінаў пасля пачатку акцыі да Анджэя падышоў шэф Ленінскага РАУС г.Гродна палкоўнік С.Васілеўскі. Ён паабяцаў разабрацца з матэрыяльным становішчам спадара Пісальніка, бо пікетоўшчык меў на грудзях паперу з надпісам «Мне забараняюць працаваць і зарабляць грошы на ўтрыманне дзіцяці». Палкоўнік спрабаваў растлумачыць Анджэю, што для выдання газеты не ўсе падрыхтаваныя. Было бачна, што палкоўнік дрэнна арыентуецца ў журналісцкай кухні: А.Пісальнік скончыў Варшаўскі універсітэт, працаваў у гарадзенскіх газетах, ягоная кваліфікацыя не горшая за кваліфікацыю іншых рэпарцёраў.

Урэшце рэшт, Васілеўскі загадаў Анджэю спыніць пікетаванне і сказаў журналістам, якія прыйшлі назіраць за акцыяй, што яны сваёй прысутнасцю ўтвараюць «мітынг». Праз некалькі хвілінаў усе разышліся, чацвёра выкліканых супрацоўнікаў міліцыі ніякіх рэпрэсіяў не ўжывалі.

Чаму гарадзенскія ўлады так упарта перашкаджаюць рэгістрацыі «Рэпарцёра»? У мяне ёсць такая версія. Папершае, новая няўрадавая газета запатрабуе дадатковых высілкаў па яе прыўлашчванні (а для некаторых «органаў» - гэта дадатковая праца). Па-другое, агульныя наклады няўрадавых газетаў у Гродне канкуруюць з накладамі «вертыкальных» СМІ. Але галоўным, на маю думку, з'яўляецца, як заўсёды, матэрыяльны інтарэс. Гарадзенскі гарадскі выканкам у хуткім часе пачне выдаваць сваю газету «Вечерний Гродно». Таму будучыя канкурэнты мусяць быць зацісnутыя як мага раней. Ад гэтага залежаць заробкі і прэміі будучага друкаванага органа выканкама горада. Вось і ўся прычына ўпартасці гарадзенскіх чыноўнікаў.

Сяргей Самасей

# Мастацтва набліжаецца да нас

**На чым толькі не малявалі мастакі! На сценах, дрэве, палатне, паперы...ды што там пералічваць, на ўсім, што здольнае трымаць след ад фарбы (альбо вуглю, мелу і г.д.). Гарадзенскія мастакі вырашылі прадоўжыць эксперыменты па пошуку новых формаў самавыяўлення. Непасрэдна перад адкрыццём Фестываля нацыянальных культураў галерэя «У Майстра» праводзіць творчую акцыю пад назвай...не, пра назву крыху пазней. Сутнасць яе ў наступным: выкарыстоўваць замест традыцыйнага палатна альбо кардону...баваўняныя майкі. Тым самым нібыта выплюхнуць сваю фантазію на вуліцы, і ў прамым сэнсе - у народ.**

Аўтар ідэі - Ірына Сільвановіч - дырэктар галерэі, растлумачыла нараджэнне ідэі такім чынам: «Лета, сонца, захацелася чагосьці нечаканага, яркага, нетрадыцыйнага». Мастакі з энтузіязмам падхапілі гэты настрой. Галерэя прадаставіла ім матэрыял (майкі) і фарбы. Фарбы, зразумела, адмысловыя, прывезеныя з Польшчы і Масквы менавіта для гэтай акцыі.

Сярод удзельнікаў эксперыменту - Аляксандр ды Ірына Сільвановічы, Сяргей Грыневіч, Сяргей Ілын, Сяргей Стома, Сяргей Бузун, Ірына Працька, Раман Майсей ды іншыя. Сама акцыя была запланаваная на 31 траўня. І якраз у той час, калі гэты нумар падпісваўся да друку, галерэя «У Майстра» ператварылася ў творчую майстэрню, дзе аднachасова тварылі каля дзясятка мастакоў. Працэс нараджэння мастацкага твора на кожнай асобна ўзятай майцы фіксаваў фотамастак Валерый Кавалеўскі. І той, хто зараз пажадае набыць унікальную мастацкую майку ва ўласны гардэробчык (а гэта сапраўды будзе абсалютны эксклюзіў), здолее атрымаць і зафіксаваны ў выглядзе фота момант яе стварэння. Але і гэта яшчэ не ўсё.

Назва акцыі - «Пад піва». Пры чым тут піва? На самой справе, усё не так ужо і нелагічна. Папросту ўсе мастакі - удзельнікі акцыі - людзі маладыя і вясёлыя, і піва (дарэчы, Гарадзенскага піўзавода) было цалкам арганічным складнікам гэтага перформансу. Яму, піву, быў прысвечаны верш нашага славутага паэта Васіля Акудовіча, які тут жаператварыўся ў гімн і быў выкананы пад гітару.

Сёння ў галерэі «У Майстра» незвычайны вернісаж - мастацкія майкі. Выстава будзе доўжыцца некалькі дзён, уключаючы перыяд фестываля. Адрас галерэі той жа - вуліца Кірава,14.

Ніна Палуцкая

**Да гадавіны трагічных падзеяў у Менску 30 траўня 1999 года**

## Даруйце

Няміга. Станцыя метро.
Жудасна і тужліва.
Ведаць бы толькі адно:
Вінаваты?
Мажліва...

Адкуль жа прыйшла гэта жудзь,
Што прывяло да згубы?
Падаюць і не ўстаюць
Веры, Надзеі, Любы.

Замест падвянечнай фаты
У радасныя хвіліны,
Чорная пашча труны
Ды горкія саракавіны.

Аж забівае дых,
Думка калоціцца, б'ецца,
Сорак каменных пліт
Цяжарам легла на сэрца.

Дні праляцяць чарадой
У сумнай сваёй калаверці...
Не трэба нам, Божа, спакой,
Даруйце нам, нашы дзеці.

Іван Гайваронскі

## У кожнага студэнта будзе банкаўскі рахунак

**Студэнты Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Я.Купалы будуць атрымліваць стыпендыю ў касах «Інфабанку» (вул.Дзяржынскага, 30). Такое рашэнне днямі было прынята кіраўніцтвам універсітэта.**

Раней стыпендыю за ўсю акадэмічную групу атрымлівае стараста. Ва універсітэце каля 4500 навучэнцаў, з іх дзесьці 200 - старасты. Але і іх дзве універсітэцкія касы за тры дні, адведзеныя на атыманне стыпендыі (з 12 па 15 чыслы кожнага месяца), абслугоўваць не паспявалі - каля касаў заўсёды ўтвараюцца натоўп. У студэнцкім асяродку ходзяць чуткі, што менавіта непрыглядныя чэргі ў Галоўным корпусе і сталі асноўнай прычынай рэформы - універсітэт часта наведваюць замежныя госці, і студэнцкія чэргі заўсёды выклікалі ў іх непатрэбныя пытанні. Зараз жа ў кожнага студэнта будзе адкрыты банкаўскі рахунак, з якога ён у любы дзень сам зможа зняць свае грошы (усе ці частку). На пакінутыя на рахунку грошы будзе налічвацца шэсць працэнтаў гадавых.

Выдача стыпендыі праз банк ужо даволі паспяхова практыкуецца ў Беларускім дзяржаўным універсітэце ды ў Эканамічным універсітэце. Яшчэ невядома, чым гэта абярнецца для гарадзенскіх студэнтаў. Атрымаць стыпендыю можна будзе толькі ў «Інфабанку», у якім усяго шэсць касаў. Але, як сцвярджаюць супрацоўнікі банку, невялікія чэргі могуць узнікнуць толькі пры афармленні дамоваў на адкрыццё рахунку, што займае пяць хвілін. А наогул, абслугоўванне кліента займае паўхвіліны.

Рэформу універсітэцкай бухгалтэрыі студэнты прынялі неадназначна. Адныя лічаць, што атрыманне грошай зойме шмат часу, некаторыя кажуць, нават, што на гэтым нажывецца дзяржава. Другія ўпэўненыя, што гэта зручна - самому распараджацца сваім часам і сваімі грашыма.

Але незадаволеныя навучэнцы пакрыўджанымі не будуць.

- Некаторыя студэнты псіхалагічна прызвычаіліся, што стараста выдае ім грошы. Таму мы вырашылі не ісці рэвалюцыйным шляхам, а паступілі дэмакратычна. Такія студэнты могуць аформіць даверанасць на старасту і захаваць старую працэдуру, - тлумачыць старшыня прафкама універсітэта Аляксандр Грынь.

Алеся Сідлярэвіч

# Усхопчыка знарок не прыдумаеш

## Камандзіру, які атрымаў перамогу, - ад непераможнага падначаленага

**Вось і надышоў, нарэшце, зорны час для генерал-лейтэнанта В.Усхопчыка - прызначылі намеснікам МА РБ. Доўгім і цярністым быў гэты шлях. Давялося шмат перажыць і пайсці на здраду былых начальнікаў, сяброў і таварышаў, у прыватнасці, Г.Таразевіча, дзякуючы якому ў цяжкую хвіліну студзеня 1991 года не застаўся да скону дзён сваіх у Вільні; П.Казлоўскага, таго, які верыў у лепшыя чалавечыя якасці, хто ў жніўні 1992 года прызначыў на пасаду камандзіра корпуса і за тыдзень да сваёй адстаўкі прысвоіў чарговае вайсковае званне ў ліпені 1994 года...**

Па-людску можна зразумець не толькі В.Усхопчыка, але і любога іншага афіцэра, для якога вайсковая кар'ера, у лепшым сэнсе гэтага слова, вітаецца і разумеецца як належнае, як прызнанне заслуг. Але ва ўсім гэтым ёсць яшчэ і маральны аспект, маральныя крытэрыі як у тых, хто прызначае, так і ў тых, хто жадае дадзенага прызначэння. У гэтай сітуацыі з маральнасцю даволі кепска.

У дзяржаве, кіруемай А.Лукашэнкам (ГУЛАГ, паводле словаў А.Лябедзькі), усё пастаўлена з ног на галаву (і наадварот) і можа быць што заўгодна, што ў рэчаіснасці і адбываецца. У цывілізаваных краінах падобнае прызначэнне немагчымае ў прынцыпе. Але з прычыны таго, што А.Лукашэнка ніколі не павядзе нас цывілізаваным шляхам, прызначэнне мела месца быць.




**Пакуль Шэйман думае над стварэннем новай, антынатаўскай, ваенна-палітычнай дактрыны Рэспублікі Беларусь, 15 траўня ў Навагрудку мясцовыя білінгвістычныя палітыкі паспелі яе абнародаваць на стэндзе мясцовага кінатэатра. Чытайце...**

Нават у Расеі, пры прызначэнні Ігара Радзівонава Міністрам абароны, Эдуард Шэварднадзэ - прэзідэнт Грузіі - звярнуўся з афіцыйным лістом да Барыса Ельцына, у якім не было пярэчанняў адносна дадзенага рашэння. Тым самым, Грузія прызнала невінаватасць Ігара Радзівонава за красавіцкія падзеі 1989 года ў Тбілісі. Так альбо падобным чынам павінны рашацца і вырашаюцца праблемныя пытанні ва ўзаемаадносінах паміж суседнімі дзяржавамі.

Нешта не чутно, каб палітыкі Літвы - Вітаутас Ландсбергіс, Казімір Прунскене ці нават Альгірдас Бразаўскас з «разуменнем і павагай» успрынялі рашэнне Аляксандра Лукашэнкі ў дачыненні да В.Усхопчыка. Ёсць толькі Міністэрства замежных справаў Літвы, але процілеглага зместу. Чаго і належала чакаць. Я далёкі ад думкі, што гэта не прагназавалася ў Савеце бяспекі, не пралічваліся магчымыя наступствы дадзенага, на першы погляд, не зусім абачлівага захаду. Хутчэй за ўсё, гэта каварная задума з далёка ідучымі наступствамі.

В.Усхопчыка можна было прызначыць на любую пасаду (нават Міністра абароны) пасля 1995 года шмат разоў. Да гэтага часу ён быў неаднойчы «пралічаны» ў пытаннях лаяльнасці да рэжыму і асабіста да А.Лукашэнкі. Але чамусьці гэта адбылося менавіта зараз, у досыць крытычны для Беларусі час? Адказ можа быць адзіным - да сярэдзіны восені становішча ў дзяржаве павінна стаць яшчэ больш напружаным і супярэчлівым з некалькіх прычынаў.

1. За апошнія чатыры-пяць гадоў з прыродай у Беларусі стала адбывацца нешта няўяўнае: то засуха, то паводка, то замаразкі, то шквалы з ураганамі... Тым самым, нібы прырода нібы паўстае супраць народа Беларусі, які абраў сабе сённяшняе, як аказалася антынароднае ва ўсіх дачыненнях, кіраўніцтва. А кіраўнікі дзяржавы не спрабуюць ды і не жадаюць бачыць прычынна-выніковых сувязяў «прырода-чалавек» у дадзенай сітуацыі. Спадзявацца на поспехі ў сацыяльна-эканамічным развіцці і ў гэтым годзе (як заўсёды) не даводзіцца, ды і няма аб'ектыўных прычынаў. А расейскі допінг не здолее працяглы час уздзейнічаць на эканаміку Беларусі, прадоўжыць яшчэ некаторы час агонію рэжыму. Такім чынам, узмацняецца незадавальненне грамадзянаў. Але ўсяму ёсць мяжа, і надыйдзе час, калі можа здарыцца непрадказальнае. А да гэтага трэба рыхтавацца заранёў.

2. Праводзімыя ўвосень парламенцкія выбары ў «палатку» не будуць прызнаныя сусветнай супольнасцю, калі ў іх не будзе ўдзельнічаць апазіцыя. Але апазіцыя возьме ўдзел у тым выпадку, калі адначасова з парламенцкімі будуць праводзіцца і прэзідэнцкія выбары. Думаецца, Расея і яе законнаабраны прэзідэнт Уладзімір Пуцін «параіць» Аляксандру Лукашэнку пайсці на «пратэрмінавана-датэрміновыя» выбары. А як вядома, такая адказная выбарчая кампанія будзе праходзіць даволі актыўна ў палітычным плане. Тым больш абсалютна невядома, якімі будуць вынікі выбараў. А калі яны пройдуць з захаваннем законнасці і не «ашчаслівіць» нас А.Лукашэнка яшчэ гадоў на пяць?

Добраахвотна ад улады адмовілася лічаная колькасць палітыкаў: Мікалай II, Піначэт, Ельцын. Але наш Аляксандр Рыгоравіч не такі. Гэта салодкае, усеахопнае слова «ўлада», «царскія паўнамоцтвы», ад якіх забівае дух, кружыцца галава ў наркатычным экстазе, вабіць у нязведанае, хочацца і надалей праводзіць жахлівыя эксперыменты над уласным народам у выглядзе рынкавага сацыялізму»... І раптам усяго гэтага не стане. І ты ўжо ніхто, просты грамадзянін, такі, якіх у нас, пакуль яшчэ, болей за 10 мільёнаў чалавек. Ды і адказваць трэба будзе ўжо на наступны дзень за ўчыненае. Але хіба ўлада ў асобе аднаго чалавека можа гэта дапусціць? Не, і яшчэ раз не.

Вось тут і павінны будуць сказаць сваё «важкае слова» «сілавікі» пад адзіным камандаваннем таго, хто мае досвед здушэння іншадумства і незадавальнення грамадзянаў, якое ўсё больш расце. І такі военачальнік, нарэшце, запатрабаваны.

Відаць, вышэйназваныя прычыны і з'явіліся асноўным і галоўным аргументам прызначэння В.Усхопчыка на такую адказную і перспектыўную пасаду.

**Вячаслаў Шчыткавец,**
**г.Бабруйск**

**P.S.: А генералаў з адпаведным узроўнем адукацыі, у тым ліку Акадэміяй Генштаба, паслужным спісам для прызначэння на любыя пасады ў апараце МА РБ у нас пакуль яшчэ дастаткова, ды і «братэрская» Расея не забываецца час ад часу падкідваць да нас «на ловлю счастья и чинов» сваіх суграмадзянаў.**

# Беларуская салідарнасьць

**Беларус, зважай!**

Над беларускім народам і Беларусьсю навісла пагроза. Вуснамі Лукашэнкі і Пуціна агучваюцца пляны маскоўскіх «стратэгаў». Лукашэнка прамалінейна гаворыць пра тое, што на Беларусі будзе разьмешчаная 300-тысячная армія, Пуцін больш дыпляматычна - пра тое, што Расея будзе адэкватна рэагаваць на пашырэньне NATO на Ўсход.

У Расеі камунізм нарадзіў кагэбізм. Да ўлады прыйшоў рэжым, замешаны на крыві чачэнскага народу, на крыві сваіх грамадзянаў, на тэрарыстычных узрывах жылых дамоў у Маскве і Волгадонску, на рабаваньні свайго народу, на заказных забойствах, на фальсыфікацыях, ашуканстве і хлусьні. Цяпер задумана завяршыць працэс акупацыі Беларусі і беларускага народу.

Зноў палітыканы ўзбуджаюць ваенны псыхоз, нацкоўваюць людзей супраць краінаў Захаду, грамадзяне якіх не жадаюць нам зла, якія вязуць нам гуманітарную дапамогу, прымаюць нашых дзяцей, дапамагаюць выратавацца ад чарнобыльскай бяды. Для чаго ўводзіцца 300-тысячная чужая армія на Беларусь? Хто нам пагражае? Ці будзе гэтая чужая армія пагрозай для краінаў NATO, такіх як Нямеччына ці Францыя? Чужая армія на нашай тэрыторыі - гэта пагроза для нас, беларусаў. Выхаванцы крывавай камуна-кагэбісцкай сістэмы плянуюць паставіць Беларусь (цяпер ужо ў новым стагодзьдзі) у эпіцэнтар новай ваеннай катастрофы. Пасьля частковага развалу Савецкага Саюзу рускія імпэрскія рэваншысты пастанавілі аднавіць межы былога СССР. Першы ўдар наносіцца па Беларусі. Праз свайго стаўленіка Лукашэнку яны ўсталявалі тут рэжым унутранай акупацыі. Рэальная акупацыя замацоўваецца ўвядзеньнем чужога войска на акупаваную тэрыторыю. Прытым, ня мае істотнага значэньня, якім чынам будзе ўведзенае войска, ці шляхам адкрытай агрэсіі (як у Чачэніі), ці шляхам змовы і выкананьня фальшывых абавязкаў (як у краінах Балтыі ў 1939-1940 гадах, у Польшчы і Чэхаславаччыне пасьля другой сусьветнай вайны), ці спосабам стварэньня нібыта сумесных вайсковых груповак на тэрыторыі, што становіцца аб'ектам акупацыі. Менавіта апошні варыянт заплянаваны Масквой для Беларусі, дзе ўжо са згоды прадажнага рэжыму адбываецца таемнае назапашваньне расейскіх ваенных сілаў.

Мы, беларусы, адказныя за тое, калі дазволім разьмяшчэньне акупацыйнага расейскага легіёну на нашай тэрыторыі. Мы адказныя перад нашымі суседзямі, народамі Літвы, Латвіі і Польшчы. Гэта супраць нас і нашых суседзяў будуць накіраваныя акупацыйныя войскі. Каб утрымаць уладу, задаволіць свае празмерныя амбіцыі, Лукашэнка з Пуціным і ўся расейская ваеншчына без хістаньня ўцягнуць народы ў новую бойню. Беспакараным гэта застацца не можа. Варта ўзгадаць кропкавыя ракетныя і бомбавыя ўдары войскаў NATO па аб'ектах Югаславіі. Няўжо нам гэта патрэбна?

Мы павінны рыхтавацца да ўсенароднай барацьбы за свабоду і незалежнасьць Беларусі. Але зараз у нас яшчэ ёсць час і магчымасьць спыніць рэалізацыю расейскіх злачынных плянаў. Трэба рабіць наступнае:

1. Неабходна разгарнуць масавыя пратэсты на ўсёй Беларусі супраць разьмяшчэньня расейскіх ваенных аб'ектаў і базаў на нашай тэрыторыі.

2. Кожная беларуская сям'я павінна падпісаць ліст аб незаконнасьці «дагавору» пра стварэньне «саюзнай дзяржавы» Беларусі і Расеі, які прыдумалі Лукашэнка і Ельцын восьмага сьнежня 1999 году. Тысячы грамадзянаў Беларусі падпісалі такія лісты. Яны накіраваныя ў ААН, АБСЭ, амбасады ЗША і Вялікабрытаніі. Працу па зборы подпісаў праводзіць Беларускі Народны Фронт і яго Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя - БНФ.

3. Улада Лукашэнкі - нелегальная, а рэжым Лукашэнкі ёсьць незаконная ўлада. Таму абавязкам грамадзянаў Беларусі зьяўляецца ўсталяваньне законнасьці ў нашай дзяржаве і стварэньне законнай беларускай улады. Пры адпаведнай пазыцыі ініцыятарам стварэньня законнай беларускай улады. Пры адпаведнай пазыцыі ініцыятарам стварэньня законнай улады павінен быў бы выступіць Вярхоўны Савет 13-га скліканьня і ягоны Старшыня Сямён Шарэцкі. Яны павінны былі б паклікаць законны ўрад і зьвярнуцца па дапамогу да грамадзянаў Беларусі дзеля стварэньня тэрытарыяльных ворганаў самакіраваньня і разам зь імі ствараць неабходныя выканаўчыя органы. Іхнай задачаю ёсьць арганізацыя і правядзеньне выбараў у законны парлямант Беларусі. Аднак браць адказнасьць на сябе Вярхоўны Савет ня хоча (ці ня можа). Таму гэтую ініцыятыву давядзецца ўзяць на сябе Беларускаму Народнаму Фронту і арганізацыям Вызвольнага руху. Трэба падтрымліваць Беларускі Вызвольны Рух і яго мэту - ліквідацыю дыктатуры і акупацыйнага рэжыму на Беларусі.

4. Грамадзяне Беларусі не павінныя прымаць удзел у любых выбарах, якія будуць арганізаваныя рэжымам Лукашэнкі. Удзел у такіх выбарах замацуе рэжым ва ўладзе, дазволіць яму канчаткова зьнішчыць беларускую дзяржаўнасьць, ператварыць нашу моладзь у гарматнае мяса расейскіх імпэрыялістаў. Расейскія палітыкі і ваеншчына разглядаюць Беларусь як тэрыторыю для далейшай экспансіі на Захад, а беларусаў - як пакорлівых выканаўцаў іх імпэрскіх плянаў.

5. Беларусы не павінны трапляць пад узьдзеяньне шулерскага ашуканства накшталт «перамоваў» і «дыялёгаў», якія арганізоўвае цяпер рэжым (ці робіць выгляд, што арганізоўвае), на якія купляецца «балотная» і каляніяльная апазыцыя. Гэта ёсьць тэхналёгія ашуканства, прымеркаваная дзеля прыкрыцьця акупацыйных працэсаў, зьнішчэньня дзяржаўнасьці Беларусі.

На жаль, і Менская група АБСЭ, якую ўзначальвае дыплямат з Нямеччыны спадар Ганс-Георг Вік, падштурхоўвае апазыцыю ды дыялёгу з незаконным лукашысцкім рэжымам і да ўдзелу ў арганізаваных рэжымам «выбарах». Група АБСЭ актыўна спрые афармленьню «балотнай» і каляніяльнай апазыцыі. На працы групы АБСЭ ў Беларусі ўзьнікае шмат пытаньняў. Чаму група АБСЭ ўпарта ня хоча бачыць рэальныя дачыненьні Расеі і Беларусі? Чаму яна ня хоча бачыць, што корань зла знаходзіцца ў Маскве? Чыю палітыку праводзіць група АБСЭ ў Беларусі? Якія ёсьць дамоўленасьці паміж Нямеччынай і Расеяй? Ці ня ёсьць Беларусь разьменнай манэтай у гандлі Расеі і Нямеччыны за Калінінградзкую вобласьць (Усходнюю Прусію) і нафта-газавыя трубапроводы праз Беларусь?!

Беларусы павінны быць пільнымі, не паддавацца на розныя падманныя тэхналёгіі.

Беларус, паклапаціся пра свой лёс! Абарані сябе і будучыню сваіх дзяцей. Нельга забывацца, да чаго прыводзяць безабаронныя паводзіны. Трэба памятаць урокі камуністычных крывавых 30-х, 40-х, 50-х гадоў, калі мільёны беларусаў вывозілі з родных мясьцінаў на непасільную рабскую працу і галодную смерць, забівалі ў Сібіры і ў Курапатах.

Мы павінны абараніць незалежнасьць Беларусі, Народ мусіць зьберагчы Бацькаўшчыну.

Далучайцеся да дзейнасьці Беларускага Вызвольнага Руху!

Нашае выратаваньне ёсьць Беларуская Салідарнасьць!

Разам мы пераможам!

Жыве Беларусь!

**Прынята Ўправай Сойму Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» і Ўправай Сойму Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі - БНФ 02.05.2000 года.**

# Гарадзенскія Алімпіёнікі

**21 траўня ў Гародні адбылося сьвяточнае адкрыцьцё Алімпіяды маладзёвых няўрадавых арганізацыяў Гарадзеншчыны, якую ладзіць Малады Фронт.**

А палове на восьмую ўвечары каля помніку «Пагоня на Грунвальд» ля Каложскай царквы сабралася каля 100 чалавек. З запаленай паходні, у час выкананьня песьні «Край», адбылося афіцыйнае адкрыцьцё Алімпіяды. Пад гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» быў узьняты бел-чырвона-белы сьцяг.

Удзел у адкрыцьці, акрамя арганізатараў, бралі прадстаўнікі Маладой Грамады, Незалежніцкага Маладзёвага Руху ды іншых арганізацыяў.

Алімпіяду распачалі выступы маладафронтаўскіх бардаў.

24 траўня адбыўся спабор па шахматах. 10 гульцоў як сапраўдныя грасмайстры змагаліся між сабою. Змаганьне доўжылася каля чатырох гадзін. У выніку перамог сябра Незалежніцкага Маладзёвага Руху, вядомы ў сьценах Гарадзенскага медуніверсытэту як ды-джэй Віталь.

У сьпякотную суботу, 27 траўня, у маладых спартоўцаў адбываўся спабор па бегу на 100 ды 1000 мэтраў. Адбыліся два забегі - дзявочы ды мужчынскі. Пераможцамі сталі адпаведна - Тацяна Кліменкова ды Валеры Руселік.

28 траўня патрыятычная моладзь змагалася за права звацца лепшым стралком Алімпіяды. Цікавым было тое, што ў гэтым годзе пазмагацца з хлопцамі прыйшлі й дзяўчаты, адна зь якіх і перамагла ў жаночым разрадзе. Гэтаю дзяўчынаю была ўсім вядомая Юлія Дарашкевіч.

У аўторак, 30 траўня, маладыя спартоўцы дужаліся ў армрэсьлінгу. Перамог сябра Незалежнага Маладзёвага Руху Віктар Сацута, які адолеў сваіх супернікаў ва ўсіх 12 сустрэчах.

**Ул. Інф.**

**Наступныя спаборы пройдуць:**

3 чэрвеня 2000 году ў 15.00 - Футбол. Збор каля стэлы ў Новым парку. 4 чэрвеня 2000 году ў 14.00 - Футбол (працяг). 5 чэрвеня 2000 году ў 19.00 - Конкурс карыкатуры. Управа БНФ. 7 чэрвеня 2000 году ў 19.00 - Кіданьне гранаты. Збор каля стэлы ў Новым парку. 10 чэрвеня 2000 году ў 15.00 - Баскетбол. Спартыўная пляцоўка каля СШ N1. 11 чэрвеня 2000 году ў 10.00 - Валейбол. Збор каля тэатру лялек. 11 чэрвеня 2000 году ў 14.00 - Конкурс «Беларуская прыгажуня». Управа БНФ. 11 чэрвеня 2000 году ў 18.00 - Конкурс бардаўскай песьні. Збор каля знаку «Пагоня на Грунвальд». 11 чэрвеня 2000 году ў 19.00 - Сьвяточнае закрыцьцё. Збор каля знаку «Пагоня на Грунвальд».

# Абаронім дзяцей!!!

**Апошні тыдзень траўня. Горад рыхтуецца да фестываля, які павінен адбыцца напачатку чэрвеня. Вуліца Савецкая нагадвае стары дзіцячы фільм «Горад майстроў»: скрабуць сцены, тынкуюць, фарбуюць... Якраз у адзін з такіх дамоў з абноўленай знешнасцю ўвайшлі кіраўніца Гарадзенскай грамадскай арганізацыі «Цэнтр міласэрнасці «Сям'я» Валянціна Радзівонцава, адзін з яе памочнікаў, будучы юрыст Дзмітрый і Ваша карэспандэнтка. Мэта візіту: наведаць сям'ю з разраду надзвычай неблаганадзейных. Тым больш, што тут нядаўна нарадзілася немаўлятка. А ў пачатку чэрвеня ў нас не толькі фестываль, але і Дзень абароны дзяцей.**

Уваход на другі паверх са двара. Лесвіца брудная, захламленая. Дзверы ў кватэру адчыніла немаладая жанчына. Ніякіх калідораў, адразу кухня, з яе дзверы - у адзіны пакой. Гаспадыня не здзівілася някліканым гасцям, не задала пытанняў: Валянціна Максімаўна тут нярэдка бывае. І пытанні часцей задае яна. У кватэрцы неймаверна душна (на газавай пліце ў вядры выварваецца бялізна), брудна, рамонту гэтыя сцены, падлога і столь не бачылі, мабыць, з польскіх часінаў.

У пакоі на ложку сядзіць жанчына і корміць дзіцятка з бутэлечкі. У немаўляці сляды моцнага дыятэзу на шчочках. Радзівонцава з парогу цікавіцца: што гэта за сумесь, якой матухна корміць дзіця, чаму не прыходзіць у Цэнтр за прадуктамі. «Я вельмі задаволена, што вы сёння цвярозыя», - кажа яна, звяртаючыся, галоўным чынам, да жанчыны, што адчыніла нам дзверы - бабулі. Тая, усім сваім выглядам паказвае, што нічога дзіўнага тут няма, звычайная справа. Але абстаноўка, запушчанасць, старая шэрая бялізна ды і выгляд саміх жыхарак кватэры сведчаць пра адваротнае. А крыху пазней высвятляюцца дадатковыя шляхі да партрэту гэтага сямейства: у маці гэтае дзіцятка шостае па ліку. Пяцёра - адзін ды хлапчук - адлучаныя ад маці па рашэнню суда і жывуць у інтэрнаце, толькі зрэдку да яе наведваюцца. Яе муж, бацька апошняга дзіцяці, у зняволенні. Відаць, увесь іх бюджэт - матэрыяльная дапамога на немаўлятка.

Такіх сем'яў, адпаведна падлікам Цэнтра міласэрнасці, які ўзначальвае Радзівонцава, у Гродне болей за 750. Найбольш за ўсё Валянціну Максімаўну ў гэтай сітуацыі непакоіць лёс дзяцей, і асабліва дзяўчынак. «Калі яны вяртаюцца з інтэрнатаў і дзіцячых дамоў пасля заканчэння школы, то трапляюць у тое ж асяроддзе, якое загубіла іх матуляў, - кажа яна, - і часцей за ўсё паўтараюць іх лёс». На самой справе, трэба быць моцнай асобай, каб супрацьўляцца падобным жыццёвым абставінам. А тыя дзеці, якія выраслі ў дзіцячым доме пры жывых бацьках, перша-пачаткова няшчасныя. Пра якую моц духу тут можна казаць? Каб дапамагчы гэтай самай неабароненай катэгорыі дзяцей, Валянціна Максімаўна са сваімі аднадумцамі вырашыла стварыць прытулак, у якім выпускнікі школаў-інтэрнатаў і дзіцячых дамоў (хутчэй за ўсё, як удакладніла Радзівонцава, гэта будуць у асноўным дзяўчынкі) змогуць не толькі некаторы час жыць, але і атрымліваць юрыдычную, псіхалагічную, медычную дапамогу, набыць прафесію, адным словам, выйсці ў людзі прыгожымі паўнавартаснымі грамадзянамі.

Яшчэ ў мінулым годзе гэтая ідэя здавалася фантастыкай. Але ў выніку «працяглых і зацятых бітваў» з гарадской адміністрацыяй Цэнтру міласэрнасці ўдалося дамагчыся перадачы ва ўласнае распараджэнне пад будучы прытулак будынка былога дзіцячага садка па вуліцы Лелявеля, што за тытунёвай фабрыкай. Потым пачаліся праблемы з праектна-каштарыснай дакументацыяй для рэканструкцыі дома.

Уласна, уся праблема ў адсутнасці сродкаў. Сам Цэнтр міласэрнасці, зразумела, нічога не зарабляе, на дзяржбюджэт спадзявацца не даводзіцца. Але Валянціна Максімаўна ўпэўнена ў тым, што яны створаць прытулак, бо свет не без добрых людзей. Рэканструкцыю, паводле яе словаў, павінны распачаць напачатку чэрвеня. Дапамог фінансамі Гарадзенскі лікёра-водачны завод - дае 900 тысяч рублёў, а таксама некаторымі будматэрыяламі, 250 тысяч перадаў Фонд для беларускіх дзяцей ГЛОБАЛ, фірма «Ювита», (дырэктарка Тамара Юрасава) увесь час дапамагае Цэнтру міласэрнасці, штомесяц пералічвае па 50 тысяч рублёў. Ніколі не адмаўляе ў дапамозе дырэктарка Гарадзенскага скураб'яднання Зінаіда Макавельская: закрылі рашоткамі ўсе вокны ў доме, узялі на сябе зварачныя работы, перадаюць будучаму прытулку кухоннае начынне, новы воданагравальнік. А планаў па арганізацыі работы прытулка ў супрацоўнікаў Цэнтра даволі шмат: стварыць цэх хлебабулачных вырабаў, швачны цэх (ад фірмы «Ювіта»), камп'ютарны клас, фермерскую гаспадарку (з Гарадзенскім скураб'яднаннем ідуць перамовы пра базу адпачынку ў Прывалках) ды інш. «Мы, - кажа Валянціна Максімаўна, - не павінны толькі «карміць рыбкай» нашых апекаванцаў, мы павінны «даць ім у руку вуду» і навучыць гэтую рыбку лавіць».

Стварэнне прытулку - галоўны праект Цэнтра міласэрнасці, але не адзіны яго клопат. Бо 1500 дзяцей, якія лічацца ў тых самых 750 сем'ях, застаюцца сацыяльнымі сіротамі, якія адчуваюць патрэбу ў дапамозе штодня. Цэнтр міласэрнасці арганізуе бясплатнае харчаванне, атрымлівае і размяркоўвае гуманітарную дапамогу. Апошняе, што прыдумалі ягоныя актывісты, гэта правядзенне дабрачынных канцэртаў. Канверты, у якія гледачам прапануюць пакласці грошы, пакуль не зусім звыклыя для нашых людзей. Але ахвотнікаў ахвяраваць грошы дзецям усё ж аказваецца не так ужо і мала. Цэнтр міласэрнасці не адмаўляецца і ад валанцёрскай дапамогі кожнага ахвотніка, і ад матэрыяльнай. Ад кожнага і заўсёды. Бо місія абароны дзяцінства не абмяжоўваецца адным днём - першага чэрвеня.

**Ніна Палуцкая**

**Адрас «Цэнтра міласэрнасці «Сям'я» ў Гродне: вул.Сацыялістычная, 49-17; тэл. 44-02-95**

# Надта ж добрая геаметрыя па-руску!!!

**Калі нашыя суседзі - Польшча, Расея - прымаюць законы, якія абараняюць польскую ды расейскую мовы, то на Беларусі, пасля рэферэндума 1995 года, беларуская мова апынулася на «задворках». Чыноўнік - гэта не толькі слуга закона, але і слуга народа. Аднак чыноўнік лічыць, што мы, беларусы, ягоныя слугі. Вось факт. Дазвол на пікет 16 траўня 2000 года, які даў гарвыканкам старшыні гарадской Рады ТБМ Аляксею Пяткевічу, быў надрукаваны на расейскай мове. Гэта здзек з усіх нас і парушэнне Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.**

Ідзе ціхая, але імклівая русіфікацыя. Майму сыну, цяпер ужо вучню беларускамоўнага восьмага класа школы N32, выдалі дапаможнікі па геаметрыі і алгебры на расейскай мове (выдавецтва «Лицей» г.Саратаў). Хаця чыноўнікі з упраўлення адукацыі аблвыканкама запэўнівалі, што беларускіх падручнікаў і дапаможнікаў хапае. Тэлефаную у 32-ю школу, пытаюся ў завуча Таццяны Паўлаўны Аўрамчук: «Чаму выдаюць дапаможнікі на расейскай мове?» Чую ў адказ: «На беларускай мове няма, а на расейскай мове вельмі добрыя, мы і заказалі»...

З кім бы я ні гутарыў, у прыватных размовах усе выказваліся за тое, каб захаваць беларускую мову і надаць ёй статус сапраўды дзяржаўнай. А для гэтага патрэбны не толькі беларускамоўныя ВНУ, але і «рэвалюцыя» зверху, каб усё чынавенства размаўляла і пісала па-беларуску.

**А.Місцюкевіч,**
**Старшыня абласной рады ТБМ імя Ф.Скарыны**

# Беларусь - мая Радзіма

**У канцы траўня выйшаў у сьвет зборнік «Паэтычная Слонімшчына».**

Выданьне складаецца зь лепшых вершаў і ўрыўкаў з сачыненьняў, якія падаваліся на спабор «Беларусь - мая Радзіма». Гэты спабор праводзіўся ў Слоніме зь ініцыятывы маладзёвага аб'яднаньня «Ветразь» і слонімскай філіі Таварыства беларускай мовы.

**Віктар Сіняк**

# Пераемнасьць традыцыяў

**Гісторыя маладзёвага незалежніцкага руху на Слонімшчыне адлюстраваная ў гістарычным нарысе Міхася Гутара, выдадзеным у канцы траўня.**

Аўтар распавядае пра маладзёвы рух ад 1917 году да нашых дзён. Тут і часоў бальшавіцкай і польскай даваенных акупацыяў, другой сусьветнай вайны, і аповяд пра антыбальшавіцкі пасьляваенны супраціў, пра легендарную нелегальную арганізацыю «Чайка», пра новыя грамадзкія арганізацыі, якія паўставалі ў Слоніме ў 80-я-90-я гады.

**Рыгор Чупрына**

# Віленчукі на радзіме Ларысы Геніюш

**На Зэльвеншчыне распачаліся ўрачыстыя мерапрыемствы, прысьвечаныя 90-м угодкам з Дня нараджэньня Ларысы Геніюш. Пачатак ім быў пакладзены ў час візіту ў Зэльву навучэнцаў Віленскай беларускай школы імя Францішка Скарыны на чале з настаўніцай Аленай Базюк.**

Арганізацыяй прыёму гасьцей займалася ініцыятыўная група па стварэньні Асацыяцыі грамадзкіх арганізацыяў «Кальванія».

**Іван Макавік**

# Міліцыя аказвае непавагу да суда. Хто каго?

**24 сакавіка 2000 года суд Кастрычніцкага раёна горада Гродна пастановай N17-5 прызнаў незаконным складанне адміністратыўнага пратакола на актывіста прадпрымальніцкага руху Уладзіміра Соўцу.**

Справа ў дачыненні да Ул.Соўцы, распачатая паводле артыкула 172-1 часткі 8 КоАП РБ спынена з-за адсутнасці складу правапарушэння. Пастанова канчатковая і абскарджанню не падлягае. Уладзімір Соўца звярнуўся ў міліцыю з прапановай, каб у яго хаця б папрасілі прабачэння за незаконнае затрыманне і складанне пратакола. Але дзе там. Прыйшоў адказ NC-25 ад 12 красавіка 2000 года за подпісам намесніка начальніка Кастрычніцкага РАУС Г.Хацько, у якім сказана: «...Сообщаю, что по Вашему заявлению в Октябрьском РОВД г.Гродно проведена служебная проверка. Действия сотрудников милиции, производивших задержание и составление административного протокола признаны правомерными...».

Вось так. У горадзе Гродна рашэнне суда для Кастрычніцкага РАУС г.Гродна - не ўказ, а звычайная паперка, якую можна праігнараваць.

**Ул. інф.**

# Жанчыны цікавяцца кухняй. Але палітычнай

**У суботу ў памяшканні ГА «Ратуша» прайшоў семінар «Жанчына і палітыка». Тэма, трэба заўважыць, для нас проста экзатычная. Пра тое, чаму жанчына абавязкова павінна быць у палітыцы, прысутным даводзілі арганізатары: Жаночы Адукацыйна-кансультацыйны цэнтр (г.Менск) і Грамадскае аб'яднанне юрыстаў (г.Гродна).**

**Дык чыё ж месца на кухні?**

Людміла Пеціна, сустаршыня Жаночага Незалежнага Дэмакратычнага Руху (ЖНДР), распавяла гарадзенскім жанчынам пра неабходнасць іх актыўнага ўдзелу у палітыцы - сферы, да гэтай пары аддадзенай на водкуп мужчынам. Лічбы гавораць самі за сябе: па выніках перапісу насельніцтва, жанчынаў у Беларусі 53 працэнты насельніцтва. Аднак у Палаце Прадстаўнікоў іх толькі 4,5 працэнта ад агульнай колькасці, у адміністрацыі прэзідэнта няма зусім. Палітолагі трактуюць гэтыя лічбы проста: самая вялікая сацыяльная група насельніцтва Беларусі ніяк не прадстаўленая ў вышэйшых кіруючых органах краіны. Значыць, лёс гэтай групы вырашае нехта іншы.

Ні ў адной з нашых палітычных партыяў няма праграмаў вылучэння жанчынаў у палітыку. Нават партыі дэмакратычнага блоку ў гэтым не вызначыліся. У БНФ, напрыклад, надзвычай вялікае прадстаўніцтва жанчынаў (каля паловы) на сярэднім і ніжэйшым узроўнях. І разам з тым, толькі два працэнты месцаў у кіруючых органах аддадзена жанчынам. Фактычна пацвярджаецца надта папулярны і ў шэрагах гарадзенскіх дэмакратаў тэзіс адносна трох месцаў для жанчыны - «kirhe, kuchen, kinder» (з нямецкай мовы - царква, кухня, дзеці). Мужчыны яшчэ з савецкіх часінаў добра засвоілі звычку адводзіць жанчыне толькі тыя сферы, што здавён ёй даваліся - сакратаркі, агітаткаркі, зборшчыцы подпісаў - словам, руцінную работу.

Падчас семінару вядомы і любімы ў народзе псіхолаг Надзея Цыркун вельмі трапна растлумачыла, чаму моцная палова чалавецтва зусім не жадае дзяліць свае лідарскія пазіцыі: «Мужчыны ў нас разам з лідарствам асцерагаюцца страціць доступ да грошай, да размеркавання фінансавых рэсурсаў. Ілюстрацыя таго - цяперашняе фінансаванне па рэштакваму прынцыпу традыцыйна жаночых сфераў - культуры, адукацыі, ахове здароўя».

Вядома, што ўсім жанчынам замест раўнапраўя на словах спадабалася б сціплае, але рэальнае эканамічнае раўнапраўе.

У палітыцы ёсць чыста жаночыя пытанні. Але мужчынам яны часта нецікавыя.

Чым толькі ні займаюцца нашыя заканатворцы: легалізацыяй самагонаварэння, сумніўным рэфармаваннем школы, шлюбнымі кантрактамі... У той жа час, пытанні нараджэння дзяцей, дашкольнага і школьнага выхавання, здароўя жанчынаў, гандлю жанчынамі ўспрымаюцца палітыкамі-мужчынамі як другасныя. Такім чынам, калі ва ўладзе - адзін моцны пол, то няма ніякай гарантыі, лічаць трэнеры ЖНДР, што ён не адвядзе жанчынам ролю забяспечвальніцы яго жыццёвага камфорту.

Аднак не трэба лічыць, што ўсе бар'еры на шляху вылучэння жанчынаў у палітыцы ці кар'еры ставяцца наўмысна. Гэта - вынік традыцыйных стэрэатыпаў. І калі ваш начальнік ва ўпор не бачыць вашых талентаў і кампетэнцыяў, а прасоўвае ўверх па службовай лесвіцы гультаяватага калегу-мужчыну, гэта яшчэ не сведчыць пра ягонае жанчыненавісніцтва. Проста ён так прызвычаіўся.

Ці можа жанчына беспакарана сустракацца ў сваім офісе з каханкам? Ды яшчэ так, каб пра гэта даведалася ўся краіна?

Напэўна, і ў Амерыцы - не можа. А вось мужчына можа без цырымоніі, і ўсе мы ведаем такі прыклад. Наогул, у нас доўга культывавалася негатыўнае стаўленне да жанчыны-лідара, палітычнага ці нейкага іншага. Людзі ўсё яшчэ ўспрымаюць паспяховую жанчыну шаблонна. І прыдумалі для гэтага асноўныя стэрэатыпы: начальніца - добрая мама, начальніца-спакусніца і начальніца-жалезная лэдзі. Крок улева ці ўправа можа каштаваць страты аўтарытэту сярод падначаленых.

Аднак, як лічыць Людміла Пеціна, у нашым грамадстве ўсё ж такі патроху змяншаецца недавер да жаночай актыўнасці ў палітыцы і бізнесе. Паралельна расце актыўнасць і цікаўнасць жанчынаў да палітычнай кухні. Арганізатары гэтага і падобных семінараў упэўненыя, што павелічэнне колькасці жанчынаў у палітычнай сферы вядзе да паляпшэння маралі грамадства, гуманізацыі і дэмакратызацыі, што вельмі актуальна для Беларусі.

**Алена Сіневіч**

# Літванія - у Эўропу. А Беларусь?..

**20 траўня ў Наваградку адбылося падпісаньне Акту абвяшчэньня існаваньня ліцьвінскай нацыі. У гэтай імпрэзе бралі ўдзел ліцьвіны зь Менску, Гомелю, Ваўкавыску, Пінску, Ліды ды іншых беларускіх местаў.**

## Перадгісторыя

Рух за адраджэньне былое магутнае дзяржавы - Вялікага княства Літоўскага, - а таксама колішняга саманазову беларусаў (ліцьвіны) на розных этапах гісторыі то ўбіраўся ў моц, то сьцішваўся, рабіўся зусім непрыкметным.

І вось, здаецца, на мяжы тысячагодзьдзяў узьнялася новая хваля ліцьвінскае самасьведамасьці. «Літоўскае Народавае Задзіночаньне», «Вызвольны Камітэт Літвы», «Партыя Беларускае Рэчы Паспалітай», інтэрнэтаўскі сайт «Літванія», газэта «Літва» - усё гэта толькі частка сёньняшняе ліцьвінскае хвалі. Праўда, трэба зазначыць, што і тут не адбылося без супярэчнасьцяў: адныя ліцьвіны імкнуцца да адраджэньня Вялікае Літвы ў гістарычных межах, іншыя - за ўтварэньне Літвы (або Літваніі) на тэрыторыі сучаснае Заходняе Беларусі.

## Запрашэньне

Дзесьці ў сярэдзіне траўня ў рэдакцыю ПАГОНІ прыйшло адно цікавае запрашэньне, дзе, між іншым, гаварылася наступнае: «Запрашаем Вас наведаць імпрэзу падпісаньня Акту абвяшчэньня існаваньня ліцьвінскай нацыі.

У падпісаньні будуць удзельнічаць рэпрэзэнтанты ліцьвінскіх груп з розных рэгіёнаў. Імпрэза будзе адбывацца ў навакольлях места Баранавічы ў суботу 20 траўня 2000 году.

Вас будуць чакаць...(з газэтай «Праўда» ў рукох) у будынку чыгуначнага тэрміналу «Баранавічы-Палескія» на першым паверсе ў цэнтральным холе ля газэтнага кіёску «Белсаюздрук»...»

## Баранавічы - Палескія

Ля шапіку «Белсаюздрук» заўважыў мужчыну з «Праўдой» у руцэ. Гэта аказаўся старшыня Аргкамітэту Лігі Ліцьвінаў Віктар Нагнібяда. Разам зь ім ды яшчэ адным журналістам з «БДГ» накіраваліся ў аўтобус, які ўжо чакаў нас на вуліцы.

Паступова салён запоўніўся, і пад гукі дуды менчука пана Скіргайлы мы рушылі ў кірунку Наваградку.

## Абвяшчэньне

Споры дождж у Наваградку прымусіў шукаць паратунку ў кавярні «Гостинный двор», дзе і адбылася афіцыйная частка Сходу...

Урачыста прагучалі словы Акту: «Мы, рэпрэзэнтанты ліцьвінскага народу, заяўляем, што ўсьведамляем сябе па нацыянальнасьці ліцьвінамі і абвяшчаем пра існаваньне ліцьвінскай нацыі. Згодна з падставовым правам чалавека на нацыянальную самаідэнтыфікацыю просім дзяржаўныя органы і грамадзкія арганізацыі ўсіх краін разглядаць дадзены Акт як доказ існаваньня нацыі ліцьвінаў».

25 подпісаў удзельнікаў імпрэзы ў кожным зь пяці паасобнікаў дакуманту (у беларускай, ліцьвінскай, польскай, расейскай і ангельскай мовах) і Пячатка Сходу ліцьвінаў, якая пасьля мелася быць зьнішчаная, і завершылі афіцыйную частку.

Заіграла музыка, з воклічам: «Жыве Літва!», - узьняліся келіхі, маладзі менскі паэт і музыка, які назваўся панам Скіргайлам, зачытаў уласныя вершы - гэтак новаабвешчаныя ліцьвіны сьвяткавалі падпісаньне Акту.

Пасьля ўсе накіраваліся да старога Замчышча, дзе камусьці і прыйшло ў галаву: а ці не паехаць нам на Сьвіцязь?

## На Сьвіцязі

Пасьля дажджу на возеры было ціха, і добрая палова ліцьвінаў, распрануўшыся, адразу скочылі ў ваду. Астатнія стаялі на тарновішчы і рагаталі, назіраючы, як Андрэй Мельнікаў, які і ініцыяваў гэтае «вадохрышча», мітусіўся на мокрых дошках разам зь Вітаўтам Чаропкам, ніяк не наважваючыся ўлезьці ў Сьвіцязь. Нарэшце і яны пабухаліся ў ваду...

Праз паўгадзіны мы ўжо ехалі ў мястэчка Сталавічы, дзе ўсклалі кветкі да помніка жаўнерам Агінскага, якія загінулі ў сутычцы з сувораўцамі 12 верасьня 1771 году.

## Яшчэ раз пра Літванію

Ужо па дарозе ў Баранавічы я падсеў да Віктара Нагнібяды, і ён пагадзіўся адказаць на некаторыя мае пытаньні.

***- Віктар, адразу хацеў спытаць, чаму землі былое Літвы Вы называеце Літваніяй?***




**Падпісанты Акту абвяшчэньня існаваньня ліцьвінскай нацыі ў Наваградку на Замкавай гары**

- Тут мы падышлі з прагматычнага боку. Рэч у тым, што скажы сёньня каму «Літва» - і ўсе зразумеюць, што гэта Вільня і Каўнас. Атрымаецца блытаніна.

Мы ўзялі гістарычны матэрыял і ўбачылі, што амаль на ўсіх мапах, і эўрапейскіх, і літоўскіх, было напісана «Літванія». Гэтым і тлумачыцца наш выбар. Хаця, заўважу, паміж сабой мы ўжываем і тэрмін «Літва».

***- А каго сёньня можна назваць ліцьвінамі?***

- Ліцьвінам зьяўляецца той, хто ўсьведамляе сябе ліцьвінам. І такіх людзей сёньня ёсьць ужо амаль некалькі сотняў. Але мы спадзяемся, што паступова заходнія беларусы, а таксама выхадцы з гэтых зямель, даведваючыся з нашай дапамогай пра сваю гісторыю, пачнуць усьведамляць сябе ліцьвінамі. Праўда, мы не прытрымліваемся думкі, што ўсе беларусы - гэта ліцьвіны. Бо калі беларус усьведамляе сябе беларусам, то ён, вядома, беларус. Хто пяройдзе ў ліцьвінскі рух, хто не пяройдзе - гэта асабістая справа кожнага.

***- Ці ёсьць у ліцьвінскім руху прафэсійныя гісторыкі, мовазнаўцы, эканамісты, палітыкі і г.д.?***

- Усе людзі ў чымсьці прафэсійныя. У нас ёсьць і гісторыкі, і філёлягі, і палітыкі. Прыкладам, гісторыя Літваніі - гістарычнай Літвы - ужо практычна напісаная. Напісаная беларускімі сьвядомымі гісторыкамі. Застаецца толькі давесьці да ладу тэрміналёгію, адсунуць на другі плян Полацка-Магілёўскі пэрыяд гісторыі, бо гэта чыста беларуская гісторыя, яна абсалютна дарэчная для беларусаў, і замест гэтага трэба больш асьвятляць тагачасныя стасункі Літвы зь яцьвягамі, Чырвонай Русьсю, Мазоўшай. Гэта простая прагматычная замена падставовых гістарычных паняцьцяў у нашых нацыянальных інтарэсах. Адзінае, што ў XVI-XVII стагодзьдзях сапраўды Полаччына-Магілёўшчына была заваяваная Вялікім княствам - і гэта таксама наша гісторыя.

Наконт мовы. Я думаю, тут працэс павінен ісьці паралельна. Адно - гэта мова жывая, якую робяць людзі, што размаўляюць на ёй, а другое - мовазнаўцы мусяць даводзіць яе да нейкіх нормаў, правілаў. Больш таго, заходнебеларуская моўная практыка павінна быць не беларуска-расейскай, а ліцьвінска-польскай, бо Польшча для нас - гэта шлях у Эўропу. І калі нас з хітрым позіркам пытаюць: вы што, прапольскі рух, - кажам, што мы родныя народы з палякамі. І як Лукашэнка, напрыклад, ставіцца зараз да расейцаў, так і мы, у супрацьвагу, ставімся да палякаў. Мы ідзем да Эўропы.

***- А адкуль, калі не сакрэт, ідзе фінансаваньне руху?***

- Не сакрэт. Мною і Андрусём (Андрэем Юцкевічам, сустаршынём Лігі Ліцьвінаў. - заўвага аўтара) былі прададзеныя асабістыя кватэры. Зараз мы бескватэрныя. На частку гэтых сродкаў і фінансуецца нашая дзейнасьць.

***- У сёньняшнім ліцьвінскім руху існуе дзьве асноўныя плыні, супярэчлівыя адна адной. Калі частка ліцьвінаў імкнецца да адраджэньня княства ў яго гістарычных межах і сьцьвярджае пры гэтым, што ўсе беларусы - гэта ліцьвіны, то іншыя, прыкладам Ліга Ліцьвінаў, выступаюць за ўтварэньне Літваніі й адасабленьне ліцьвінаў ад беларусаў як самастойнага этнасу...***

- Тут вось у чым рэч. Да ўзьнікненьня «Літваніі» і Лігі Ліцьвінаў, руху, які абмежаваўся Заходняй Беларусьсю, было шмат асобных ліцьвінскіх згуртаваньняў. Дробныя, як і нашае - праўда, зараз яно пашыраецца, - вельмі розных поглядаў. Проста ідзе працэс дыскусіі і выпрацоўкі нейкае глебы. І гэта не канкурэнцыя, а звычайны абмен рознымі тэорыямі.

***- Ці супрацоўнічаеце Вы зь нейкімі беларускімі арганізацыямі?***

- У першую чаргу, мы шчыльна працуем зь ліцьвінамі па нацыянальнасьці. Але размаўляем і з палякамі, і зь сьвядомымі беларусамі. Калі нехта на нас выходзіць, нешта прапануе, то, вядома, можна выслухаць, параўмляць, паспрачацца. Але на бліжэйшыя год-два ўжо выпрацаваная строгая канцэпцыя працы, якая не прадугледжвае нейкіх іншых, незапланаваных мерапрыемстваў. Мы ня будзем удзельнічаць у мітынгах, пікетах, розных процiпраўных дзеяньнях. Наша галоўная задача - прапаганда. Сёньняшнія ліцьвіны будуць размаўляць па сыстэме «Гербалайф» з кожным заходнім беларусам. У нас ёсьць спэцыяльныя інструкцыі: як размаўляць, з кім размаўляць, як адбіраць людзей. А нейкіх радыкальных захадаў ня будзе.

***- А навошта тады гэткая канспірацыя - газэта «Праўда», шапік «Белсаюздрук»?***

- Канспірацыя была толькі для журналістаў, бо ўсе нашыя людзі, хто ведаў, не маглі камусьці кольвек штосьці сказаць. А для журналістаў - проста перастрахоўка. Ці мала што...

## Эпілёг

На баранавіцкай чыгунцы, калі ўжо ўсе разьвіталіся, я падышоў да Андрэя Мельнікава, каб пачуць ягоную думку пра сёньняшнюю імпрэзу. І вось, што я пачуў:

- Сюды мяне запрасілі не як барда, а як чалавека, які падтрымлівае ідэю. Навогул, я за любы здаровы сэпаратызм, як тут, прыкладам. Спадзяюся, што ў наступным годзе ўсё паўторыцца, а 20 траўня будзе традыцыйна адзначацца як Ліцьвінскі Дзень.

**Валеры Руселік**

# Палессе ў Беластоку

**Грамадскае аб'яднанне «Стары горад» з Брэста і яго прэзідэнт Ірына Лаўроўская афіцыйна запрошаны ўзяць удзел у міжнароднай канферэнцыі «Палессе ў XX стагоддзі», якая адбудзецца 1-4 чэрвеня ў Беластоку (Польшча).**

Як адзначаецца ў ліcце-запрашэнні, XX стагоддзе для палескай зямлі стала часам выпрабаванняў, моцных змен і нават катастроф. Зямля гэтая не раз таптались войскамі, потым на ёй прайшліся калектывізацыя і меліярацыя. Карэннае насельніцтва - палешукі - нярэдка вымушана было з'язджаць, каб зберагчы сябе і дзяцей ад цяжкіх змен, Халакоста, наступстваў Чарнобыля. Культура Палесся змянілася, шмат у чым страціла сваю самабытнасць. Пра ўсё гэта, а таксама пра шляхі вырашэння праблем рэгіёна і пойдзе гаворка на канферэнцыі.

Трэба адзначыць, што гэты прадстаўнічы форум - трэці па ліку ў цыкле беларуска-польскіх канферэнцый, прысвечаных жыццю Палесся. Першыя дзве адбыліся ў Мінску і Пінску.

# Надсан наведаў уніятаў Брэста

**26 мая завяршыўся візіт у Брэст старэйшага святара грэка-каталіцкай царквы з Лондана Аляксандра Надсана.**

74-гадовы святар уключыў Брэст у праграму свайго падарожжа па свеце нездарма. Як вядома, менавіта тут у 1596 годзе была падпісана знакамітая Брэсцкая унія, якая аб'ядната каталікаў і праваслаўных. Пасля таго як яна была скасавана, на Берасцейшчыне зніклі і уніяцкія цэрквы. Зараз яны аднаўляюцца. Напрыклад, у Брэсце будуецца грэкакаталіцкая царква Святых братоў-апосталаў Пятра і Андрэя, а уніяцкі прыход у абласным цэнтры сёння налічвае некалькі дзесяткаў чалавек.

**Валянціна Казловіч**

# Вынішчэнне

**У Менску выйшла унікальная кніга. У ёй няма захапляльнага сюжэту, апісання імклівых пагоняў і расследавання жорсткіх злачынстваў. На болей як дзвюхстах старонках - імёны і даты.**

У даведніку Леаніда Маракова «Вынішчэнне» - звесткі пра літаратараў Беларусі, рэпрэсаваных уладамі царскай Расеі, у савецкі час, а таксама польскімі, нямецкімі і літоўскімі ўладамі.

«Два гады таму я выдаў кніжку пра свайго дзядзьку, вучня Янкі Купалы Валерыя Маракова, - расказаў аўтар. - У працэсе яе падрыхтоўкі я сутыкнуўся з велізарнай колькасцю як вядомых, так і напалову альбо зусім забытых імёнаў беларускіх пісьменнікаў, публіцыстаў, гісторыкаў, журналістаў, рэдактараў ды іншых дзеячоў беларускай культуры, якія выступалі ў перыядычным друку ці мелі свае літаратурныя працы і рэпрэсаваліся з боку улады, тады мне і прыйшла ў галаву ідэя аб'яднаць гэтыя імёны ў адной кнізе. Праца над складаннем даведніка доўжылася каля двух гадоў. У выніку ў яго ўвайшлі кароткія біяграфічныя звесткі практычна пра ўсіх рэспрэсаваных беларускіх літаратараў за апошнія дзвесце гадоў...»

Знішчалі не толькі пісьменнікаў, але і іх творы. Першая жніўня 1937 года ў «амерыканцы», унутранай турме НКУС, было раскладзена вогнішча, у якое паляцела літаратура, ліквідаваная падчас арыштаў і ператрусаў, а таксама тая, што не прайшла цэнзуру. Было спалена тое, што пісалася «ў стол» для нас, нашчадкаў... Кажуць, што ўсіх, хто прымаў удзел у гэтай расправе, на выхадзе абшуквалі, каб, крый Божа, хто з іх не вынес цішком нават лістка з крамолай. На жаль, словы класіка сталіся толькі прыгожай метафарай - рукапісы гараць і пакідаюць пасля сябе попел несправджаных спадзеваў, нераскрытых талентаў і неўвасобленых ідэяў. У тую ноч гарэла не папера, а інтэлектуальны патэнцыял Беларусі, яе шанец стаць свабоднай, незалежнай краінай.

Гэта на першы погляд зборнік падаецца толькі зборам імёнаў і датаў. Хто мае вочы, той убачыць... У прыватнасці, што першым расстраляным бальшавікамі беларускім літаратарам быў Уладзімір Сукаліч, якога не стала 18 кастрычніка 1918 года. Што першая хваля арыштаў беларускіх пісьменнікаў пачалася напрыканцы ліпеня 1930 года, пасля чаго на працягу двух месяцаў была арыштаваная ўся краса беларускай літаратуры. Што першы масавы расстрэл нашых літаратараў адбыўся ў ноч з 17 на 18 траўня 1934 года, пасля якой беларуская культура не далічылася адразу 15 чалавек. Што 29 кастрычніка 1937 года, у Дзень ленінскага камсамола, у Менску за адну ноч расстралялі 20 беларускіх літаратараў. Што апошнімі пісьменнікамі, якіх знішчылі ў менскай «амерыканцы», былі Кастусь Езавітаў ды Янка Філістовіч... Як напісана ў прадмове да кнігі, «из 540-570 литераторов, выступавших в белорусской печати в 1920-1930 гг., большевики репрессировали не менее 440-460 (80%), а если учитывать авторов, которые были вынуждены покинуть родину и, по сути, перестали участвовать в литературном процессе, репрессиям подверглись не менее 500 литераторов». У краіне было знішчана больш за 90 працэнтаў яе інтэлектуальнай эліты...

Калі прагдядаеш даведнік «Вынішчэнне», міжволі ўзнікае думка: гістарычны шлях Беларусі складзены такім чынам, што ў краіне свядома і планамерна на працягу стагоддзяў праводзілася «своеасабліва «селекцыя наадварот», калі з клумбы з ружамі пакаленне за пакаленнем выполваліся кветкі для таго, каб не перашкаджаць разрастацца пустазеллю. А таму пытанні наконт таго, за каго сёння галасуюць беларусы і чаму мы так жывём, з поўным правам можна далучыць да разраду рытарычных.

**Вераніка Чаркасава**

АДСВЯТКУЕМ ! ! !

# Які народ самы вясёлы і дасціпны?!!

**Пра нацыянальны характар, пра менталітэт кожнага народа можна напісаць сотні тамоў. І ўсё роўна нічога не зразумець. Мы прапануем Вам пачытаць анекдоты. Мяркуем, што яны таксама могуць шмат расказаць пра кожнага з нас - тых, хто ўваходзіць складовай часткай у Беларускі Народ, тых, хто жыве ў нашым агульным Беларускім Доме. А калі мы яшчэ ў стане смяяцца над сабой, значыць мы і ёсць той самы Народ, які з'яўляецца самым вясёлым і дасціпным!!!**

Адзін жыд - гандлёвая кропка, два жыды - чэмпіянат свету па шахматах, тры жыды - чатыры палітычныя партыі.

Адзін француз - каханак, два французы - дуэль, тры французы - Парыжская Камуна.

Адзін ангелец - дэндзі, два ангельцы - футбольная каманда, тры ангельцы - парламент.

Адзін італіец - саліст, два італійцы - дуэт, тры італійцы - La Scala.

Адзін рускі - п'янтос, два рускія - бойка, тры рускія - партыйная ячэйка.

Адзін украінец - Герой Савецкага Саюза, два украінцы - партызанскі атрад, тры ўкраінцы і той самы партызанскі атрад, але адзін з іх - здраднік.

## Украінцы

Садзіцца ўкраінец у Львове на цягнік. Заходзіць у вагон, знаходзіць сваё купэ.

Адчыняе дзверы, а там тры негры сядзяць. Украінец:

- Ой, хлопцы! А шо тут горэло?

***

Пачынаецца пасяджэнне Вярхоўнай Рады Украіны. Старшыня:

- Панове, якщо серэд нас нема жидів і москалів, прэдлагаю перейти на русский язык. Так будет гораздо удобнее.

## Жыды

Ідуць два жыды па могілках.

- Глядзі, магіла Рабіновіча. З аднаго боку рабі Ісак, з другога - рабі Абрам. Хацеў бы я ляжаць побач з Рабіновічам.

- А я хацеў бы ляжаць побач з жонкай Рабіновіча.

- Дык яна ж яшчэ жывая!

- О!

***

- Які прыгожы, ветлівы, разумны рускі хлопчык!.. Несумненна, габрэй!

***

Старая габрэйка дорыць сыну на Дзень нараджэння два гальштукі. Мінае некаторы час, і сын прыходзіць да маці ў адным з іх, каб зрабіць ёй прыемнае. Маці глядзіць на яго, твар яе пахмурнее, яна пытаецца:

- А што, другі, ўсё ж такі не спадабаўся?

***

У аддзеле кадраў Рабіновіч запаўняе анкету.

Прозвішча - Рабіновіч.

Імя - Майсей.

Імя па бацьку - Абрамавіч.

Нацыянальнасць - рускі.

Яго не бяруць на працу:

- Ды з такім прозвішчам мы лепей жыда возьмем!

## Эстонцы

Ідзе мужык па дарозе. Даганяе яго воз. Мужык пытаецца:

- До Таллина далеко?

- Недаллеко.

Мужык сядае ў воз. Едуць гадзіну, дзве, а горада ўсё не відаць. Мужык зноў пытаецца:

- До города далеко?

- Цяпер даллеко.

***

Заходзіць у Таліне рускі пакупнік у краму. За прылаўкам стаіць маладая эстонка. Пакупнік на ламаной эстонскай мове тлумачыць, чаго ён хоча.

Эстонка:

- Посалуйста, каваріттэ по-русски, я всё понимаю.

Пакупнік:

- Мы пяцьдзесят гадоў слухалі Ваш рускі, цяпер Вы паслухайце наш эстонскі.

## Татары

Татары падалі ў Дзяржаўную Думу Расеі прашэнне змяніць прымаўку «Незванный гость хуже татарина».

Памянялі!

«Незванный гость лучше татарина».

## Армяне

На рынку за суседнімі столікамі гандлююць армянін і грузін.

Армянін кажа:

- Армяне лепш, чым грузіны.

Грузін сціскае зубы, але маўчыць.

Армянін зноў:

- Армяне лепей, чым грузіны.

Грузін не вытрымлівае і крычыць:

- Ну чым, чым армяне лепей?

- Чым грузіны.

## Палякі

Тры палякі:

- Мой дзядзька - каплан. Калі ён ідзе, усе кажуць: «Айцец Святы!»

- Мой дзядька - кардынал. Калі ідзе, усе кажуць: «Ваша эксцэленцыя!»

- А мой дзядзька важыць 200 кілаграмаў. Калі ідзе, усе кажуць: «О, Божа!!!»

***

Стаяць два палякі на Маршалкоўскай.

- А памятаеш, Вацак, тут у падвале калісьці быў бардэль?

У размову ўлазіць маленькі сын аднаго з іх.

- Тато, тато! А што такое падвал?



**Праграма мерапрыемстваў III Усебеларускага фестываля нацыянальных культураў**

**2 чэрвеня (пятніца)**

14.00 - 15.00
Афіцыйная сустрэча кіраўнікоў дэлегацыяў калектываў аргкамітэта, гасцей фестываля. Прэс-канферэнцыя.
Актавая зала Гарадзенскага гарвыканкама

16.00 - 17.00
Адкрыццё сквера «Сяброўства».
Вуліца Падольная

17.30 - 18.30
Тэатралізаванае шэсце дэлегацыяў нацыянальна-культурных аб'яднанняў Беларусі і гасцей фестываля па вуліцах г.Гродна.
(Ад гатэля «Беларусь» да Савецкай плошчы).

18.30 - 22.30
Урачыстае адкрыццё фестываля. Гала-канцэрт.
Савецкая плошча

**3 чэрвеня (субота)**

10.00 - 11.00
Адкрыццё фотавыставы «Гродна на мяжы тысячагоддзяў».
Новы замак

11.00 - 13.00
«На мерыдыянах дружбы». Літаратурная гасцёўня нацыянальных супольнасцяў Беларусі.
Новы замак

11.30
Адкрыццё дэкаратыўнага пано, прысвечанага фестывалю нацыянальных культураў Беларусі.
Вуліца Савецкая,6

12.00
Урачыстае адкрыццё праграмы нацыянальных падворкаў.
Савецкая плошча

12.30 - 17.30
«Запрашаем на нацыянальныя падворкі».
У праграме:
- пазнавальная частка, у якой раскрываецца з'яўленне і жыццё пэўнай нацыі на тэрыторыі Беларусі;
- выстава літаратуры; выстава, падрыхтаваная мастакамі нацыянальна-культурных аб'яднанняў;
- выстава-продаж вырабаў народнай творчасці і сувеніраў з гістарычных радзімаў;
- выстава-продаж нацыянальных стравaў;
- выступленне творчых калектываў;
- паказ мадэляў нацыянальных і сучасных строяў з элементамі нацыянальнага адзення;
- паказальныя выступленні па нацыянальных відах спорту, нацыянальныя гульнёвыя праграмы;
- конкурс карнавальных касцюмаў, фальклорных і літаратурных персанажаў нацыянальных супольнасцяў;
- танцавальна-забаўляльная праграма.

12.30 - 16.00
«У карагодзе дружбы». Абласное свята харэаграфічнага мастацтва.
Савецкая плошча

16.00 - 17.30
Свята «Мода без межаў».
Савецкая плошча

16.00 - 17.30
Фальклорнае свята «Спадчына нашай маці».
Гарадскі Дом культуры

18.00 - 19.30
Конкурс нацыянальнага анекдота.
Савецкая плошча

19.30 - 21.30
Моладзевая праграма «Беларускі фольк-мадэрн».
Савецкая плошча

21.30 - 24.00
Заключны гала-канцэрт III Усебеларускага фестываля нацыянальных культураў.
Урачыстае закрыццё фестываля.
Савецкая плошча

24.00
Феерверк.

# Гарадзенскія ўлады справакавалі міжрэлігійны канфлікт

**У кастрычніку 1999 года Новаапостальская (пратэстанцкая хрысціянская канфесія) абшчына Гродна, з «блаславення» ўладаў гораду і вобласці, набыла ў Федэрацыі вольнай барацьбы будынак былой сінагогі на вуліцы Сацыялістычнай, 35. Дадзены факт жыдоўская дыяспара гораду ўспрыняла як абразу рэлігійных пачуццяў і выступіла з патрабаваннем прызнаць здзелку несапраўднай, а сінагогу перадаць жыдам.**

-Нам гэта баліць, бо гістарычна склалася так, што хрысціяне моцна прыкладаліся да вынішчэння жыдоў,-гаворыць старшыня Гарадзенскага таварыства жыдоўскай культуры Рыгор Хасід. Іншыя жыдоўскія лідары прытрымліваюцца той жа думкі і падкрэсліваюць, што ў выпадку з Новаапостальскай царквой, «крыўда ўдвая, бо гэтая канфесія атрымлівае фінансаванне з Нямеччыны, краіны, якая ў гэтым стагоддзі здзейсніла найбуйнейшы генацыд жыдоў за ўсю гісторыю чалавецтва».

-Сапраўды,-адзначае акружны евангеліст Новаапостальскай царквы Уладзімір Енка, які займаўся здзелкай,- мы належым да акругі зямлі Ніжняя Саксонія, і менавіта нямецкія браты аказвалі нам фінансавую падтрымку, у тым ліку і ў набыцці будынку па Сацыялістычнай. Аднак, на ягоную ж думку, нічога абразлівага для жыдоў у тым, што ў сінагозе будзе месціцца хрысціянскі храм, быць не павінна: «Гэта быў храм Божы і стане ім зноў»-мяркуе спадар Енка.

Праўда, падобны ўзровень успрыняцця адрознай ад уласнай культуры і рэлігіі, дэманстравалі амаль усе, хто тым ці іншым чынам быў зніταваны са здзелкай. За выняткам толькі, можа быць, ніжнесаксонскіх братоў Новаапостальскай царквы.

Менавіта яны, выдаткоўваючы сродкі на набыццё будынку былой сінагогі, адной з галоўных умоваў вылучылі атрыманне дазволу на здзелку ад мясцовага равіна ці іншага паўнамоцнага прадстаўніка жыдоўскай абшчыны Гродна. Уладзімір Енка, даўшы даручэнне рыелтарскай фірме «2К і К» афармляць куплю-продаж будынка, паведаміў пра гэтую ўмову юрысту фірмы Мікалаю Сароку. Той, у сваю чаргу, звязаўся са старшынём жыдоўскай абшчыны Юрыем Баярскім, аднак дазволу ані вусна, ані пісьмова на набыццё сінагогі не атрымаў. У такім разе Мікалай Сарока даведаўся ў архіве, што будынак па вуліцы Сацыялістычнай фігуруе ў дакументах гарадской забудовы з пачатку 50-ых (ранейшых звестак ён знайсці не здолеў). На гэтай падставе ён вырашыў, што ніякай сінагогі ў гэтым будынку ніколі не было. А значыць, жыды не маюць да будынка ніякага дачынення.

Паловай стагоддзя абмежаваліся гістарычныя веды і ў чыноўнікаў гарвыканкаму. Справа ў тым, што гарадскія ўлады мелі права першачарговага набыцця дадзенага будынку, і адмаўляючыся ад яго, далі дазвол набыць сінагогу пратэстантам. Адзін з чыноўнікаў патлумачыў гэта так: «Гарвыканкам не ведаў, што там калісьці была сінагога».

Свядома ці не, але забыўся пра гэта і аблвыканкам у асобе старшыні Савета па рэлігіях Міхаіла Кантаровіча, санкцыя на здзелку якога таксама была атрымана. Да таго ж, Кантаровіч і дагэтуль не лічыць, што зрабіў памылку. На ягоную думку, функцыі Савета па рэлігіях у дадзеным выпадку зводзіліся да падцвярджэння факту рэгістрацыі Новаапостальскай царквы ў аблвыканкаме, а не да таго, каб папярэдзіць узнікненне міжрэлігійнага канфлікту. Тым не менш, праз некаторы час, Кантаровіч пайшоў з пасады старшыні па ўласнаму жаданню і сёння працуе ва універсітэце. Разам з Кантаровічам, па стану здароўя, пайшоў з Савету па рэлігіях і ягоны намеснік Генадзь Урбановіч. Некаторыя звязваюць дадзеныя кадравыя змяненні менавіта са скандалам, які ўзнік пасля набыцця абшчынай Новаапостальскай царквы будынка сінагогі.

А адбылося наступнае. Пратэсты жыдоўскай дыяспары Гродна былі падхопленыя жыдоўскімі арганізацыямі па ўсім свеце. За скасаванне здзелкі пачаў выступаць лідар беларускіх жыдоў акадэмік Левін. Маштаб праблемы звярнуў на сябе ўвагу старшыні аблвыканкама Аляксандра Дубко, які, паводле сцвярджэнняў жыдоўскіх лідараў Гродна, даў распараджэнне вырашыць праблему на карысць жыдоў.

Зрабіць гэта аднак не вельмі проста, бо фармальна здзелка была заключана абсалютна законна. Справядлівым выхадам з дадзенай сітуацыі можа быць прызнанне ўладамі сваёй памылкі і кампенсацыя новым апосталам за кошт вінаватых матэрыяльных выдаткаў ад разрыву здзелкі. Зразумела, чакаць ад уладаў мужнасці не варта, таму ў аблвыканкаме разглядаюць больш мяккі варыянт-продаж будынка сінагогі камерцыйнай структуры па рынкавых коштах і кампенсацыя пацярпелым ад чыноўніцкай некампетэнтнасці за кошт атрыманых сродкаў. І ўсё ж, і гэта будзе немагчыма здзейсніць, калі жыды здолеюць атрымаць права ўласнасці на іхную сінагогу.

Такім чынам, найбольш верагодным фіналам справы ўяўляецца адмова ад сінагогі з боку Новаапостальскай царквы і пошук іншага месца для храма за кошт нямецкіх братоў. Гарвыканкам і аблвыканкам за сваю некампетэнтнасць не заплацяць.

**Анджэй Пісальнік, «Рэпарцёр»**

# «Руки вверх» завітаюць у Гродна

**На вялікую радасць усім аматарам айчыннай поп-музыкі 6 чэрвеня ў сценах Лядовага палаца спорту адбудзецца канцэрт самага папулярнага сярод моладзі гурта «Руки вверх». Гэта тыя самыя хлопцы, якія сваёй прыгажосцю і шчырасцю ў песнях здолелі прывабіць увагу мільёнаў сэрцаў. Менавіта іх песні гучаць на кожным свяце ў кожнай хаце. Менавіта яны прымушаюць біцца ў тысячы разоў хутчэй сэрцы юных дзяўчатаў.**

У Гродна музыканты завітаюць з новай праграмай «Здравствуй, это я...». Квіткі можна набыць у касах Лядовага палаца спорту, а таксама ў Канцэртнай зале «Гродна» па цане ад 2 да 7 тысяч рублёў. На канцэрце можна будзе набыць плакаты, фотаздымкі, касеты і дыскі гурта «Руки вверх». Пачатак а 20-й гадзіне.

**Надзея Салыга**

## Панядзелак, 5

### НАШЕ КИНО

9.05 Валерий Приемыхов, Андрей Зыков и Ольга Машная в киноповести Динары Асановой "Пацаны". 1983 г.

10.35 Дело №... Василий Лановой, Георгий Юматов и Евгений Герасимов в детективе Бориса Григорьева "Огарева, 6". 1980 г.

12.00 Лекарство против стресса. Светлана Светличная в комедии Эдмонда Кеосаяна "Стряпуха". 1965 г.

13.10 Татьяна Догилева, Валентина Талызина, Евгений Евстигнеев и Олег Меньшиков в кинодраме Светланы Ильинской "Яма". СССР - Швеция, 1990 г. Д-17.

14.35 Наталья Гундарева, Валентин Гафт, Валентин Смирнитский и Александр Кузнецов в трагикомедии Георгия Натансона "Аэлита, не приставай к мужчинам". 1988 г.

16.00 КиНовости.

16.10 Сериал "Огненные барабаны". Режиссер Сухейль Бен Барка. В ролях: Массимо Гини, Анхела Молина, Клаудиа Кардинале, Уго Тоньяцци, Фернандо Рей, Сергей Бондарчук. СССР - Марокко - Испания - Италия, 1990 г. 1-я серия.

17.00 Сергей Варчук, Юрий Назаров и Игорь Ледогоров в приключенческом фильме Юрия Мастюгина "Голова Горгоны". 1986 г.

18.25 Любовь по-русски. Татьяна Доронина в мелодраме Олега Бондарева "Мачеха". 1973 г.

19.50 Лекарство против стресса. Олег Табаков, Станислав Любшин, Валентина Теличкина, Любовь Полищук и Нина Усатова в комедии Виктора Титова "Кадриль". 1999 г.

21.10 КиНовости.

21.20 Олег Борисов, Сергей Шакуров и Сергей Никоненко в кинодраме Вадима Абдрашитова "Парад планет". 1984 г.

22.55 Завтра в программе.

23.00 Лекарство против стресса. Игорь Ильинский и Леонид Кмит в комедии Игоря Ильинского и Ханана Шмайна "Однажды летом". 1936 г.

### МИР КИНО

9.35 КиНовости.

9.50 Форрест Джей Акерман и Эмили Тэлбот в фильме ужасов Джо Кэстро "Церемония" (США). Д-17.

11.10 Салли Кирклэнд и Бриджит Бако в триллере Лэрри Брэнда "Паранойя" (США). Д-17.

12.35 Байрам Северджан, Флориан Айдини и Бранка Катич в романтической комедии Эмира Кустурицы "Черная кошка, белый кот" (Франция - ФРГ). Д-17.

14.40 Роберт Фостер и Джоанна Кэссиди в остросюжетном детективе Марка Л.Лестера "Каскадеры" (США). Д-13.

16.10 Джосс Эклэнд и Кристин Тейлор в фильме-сказке "К концу времен" (США). С.

17.40 КиНовости.

17.55 Антонио Сабато мл., Уильям Забка и Шеннон Ли в криминальной драме Айзека Флорентайна "Высокое напряжение" (США). Д-13.

19.25 Майкл Мэдсен, Мэттью Модайн и Мэри-Луиза Паркер в боевике Тима Хантера "Правила игры" (США). Д-17.

21.05 КиНовости.

21.20 Джеймс Спейдер в драме Филипа Хааса "Двойная ставка" (США). Д-17. Премьера.

22.55 - 0.25 Тереза Энн Савой и Нинетто Даволи в фильме Миклоша Янчо "Сердце тирана, или Боккаччо в Венгрии" (Венгрия - Италия). Д-17.

### СПОРТ

9.00 "Пресс-центр"

9.15 Аэробика

9.40 "Еще неделя позади..."

10.10 Каратэ-до. Чемпионат России. Передача из Москвы.

10.55 Водное поло. Финал чемпионата России. "Динамо-Олимпийский" (Москва) - "Лукойл-Спартак" (Волгоград). Передача бассейна спорткомплекса "Олимпийский"

12.00 "Пресс-центр"

12.15 Аэробика

12.40 "Шахматное обозрение"

13.10 Художественная гимнастика. Чемпионат Европы. Командные соревнования. Передача из Испании

15.05 "Пресс-центр"

15.20 Прыжки в воду. Чемпионат России. Женщины. (трамплин 3 м, синхронные прыжки, финал). Женщины (вышка 10 м, финал). Передача из Электростали.

16.50 "Тайский бокс"

17.45 "Пресс-центр"

18.00 "На пути в Сидней"

18.45 "Железный фактор". Чемпионат России по бодибилдингу

19.30 Хроника недели

20.05 "Большой ринг"

22.05 Водное поло. Финал чемпионата России. "Динамо-Олимпийский" (Москва) - "Лукойл-Спартак" (Волгоград). Передача бассейна спорткомплекса "Олимпийский"

23.10 Новости

23.25 "Железный фактор". Чемпионат России по бодибилдингу

## Аўторак, 6

### НАШЕ КИНО

9.00 Сегодня в программе.

9.05 Сериал "Огненные барабаны". Режиссер Сухейль Бен Барка. В ролях: Массимо Гини, Анхела Молина, Клаудиа Кардинале, Уго Тоньяцци, Фернандо Рей, Сергей Бондарчук. СССР - Марокко - Испания - Италия, 1990 г. 1-я серия.

9.55 КиНовости.

10.05 Сергей Варчук, Юрий Назаров и Игорь Ледогоров в приключенческом фильме Юрия Мастюгина "Голова Горгоны". 1986 г.

11.30 Любовь по-русски. Татьяна Доронина в мелодраме Олега Бондарева "Мачеха". 1973 г.

12.55 Лекарство против стресса. Олег Табаков, Станислав Любшин, Валентина Теличкина, Любовь Полищук и Нина Усатова в комедии Виктора Титова "Кадриль". 1999 г.

14.15 Олег Борисов, Сергей Шакуров и Сергей Никоненко в кинодраме Вадима Абдрашитова "Парад планет". 1984 г.

15.50 КиНовости.

16.00 Сериал "Огненные барабаны". 2-я серия

16.50 Пушкинский дом. Алла Демидова, Виктор Проскурин, Ирина Дымченко и Елена Гоголева в кинодраме Игоря Масленникова "Пиковая дама". 1982 г.

18.15 Пушкинский дом. Мультфильм "Я к Вам лечу воспоминаньем..." 1977 г.

18.45 Лекарство против стресса. Елена Шевченко, Валентин Гафт, Лев Дуров, Олег Табаков и Николай Фоменко в комедии Владимира Машкова "Сирота казанская". 1997 г.

20.05 Борис Щербаков, Михай Волонтир и Анатолий Кузнецов в боевике Михаила Туманишвили "Случай в квадрате 36-80". 1982 г.

21.15 КиНовости.

21.25 Наталья Андрейченко, Игорь Костолевский и Виктор Мережко в мелодраме Эрнеста Ясана "Прости". 1986 г.

22.45 Завтра в программе.

22.50 Пушкинский дом. Валентин Литовский в биографическом фильме Абрама Народицкого "Юность поэта". 1936 г.

### МИР КИНО

9.30 Сегодня в программе.

9.35 КиНовости.

9.45 Джосс Эклэнд и Кристин Тейлор в фильме-сказке "К концу времен" (США). С.

11.15 Антонио Сабато мл., Уильям Забка и Шеннон Ли в криминальной драме Айзека Флорентайна "Высокое напряжение" (США). Д-13.

12.45 Майкл Мэдсен, Мэттью Модайн и Мэри-Луиза Паркер в боевике Тима Хантера "Правила игры" (США). Д-17.

14.25 Джеймс Спейдер в драме Филипа Хааса "Двойная ставка" (США). Д-17.

16.00 Ричард Харрис и Джеймс Эрл Джонс и в криминальной драме Даррела Джеймса Рудта "Плачь, любимая страна" (ЮАР - США). Д-13.

17.45 КиНовости.

18.00 Якоб Тор Эйнарссон и Эдда Бьоргвинсдоттир в историко-приключенческом фильме Храфна Гуннлаугссона "Полет ворона" (Исландия - Швеция). Д-13.

19.50 Фрэнк Сталлоне, Джо Эстевез и Карен Блэк в фантастическом фильме Дональда Джексона "Роллер-бритва" (США). Д-13.

21.25 Виктор Гербер в драме Дэвида Грина "Либерейс: втайне от музыки" (США). Д-13. Премьера.

22.55 - 0.45 День рождения звезды. Роберт Энглунд. Роберт Энглунд в фильме ужасов Уэса Крейвена "Кошмар на улице Вязов-7. Новый кошмар" (США). Д-17.

### СПОРТ

3.00 Хоккей. Кубок Стэнли. Финал. 4-й матч. Прямая трансляция

По окончании трансляции в программе перерыв до 9.00

9.00 "Пресс-центр"

9.15 Аэробика

9.40 Хоккей. Кубок Стэнли. Финал. 4-й матч

12.00 "Пресс-центр"

12.15 Хроника недели

12.45 Художественная гимнастика. Чемпионат Европы. Командные соревнования. Передача из Испании

14.55 "Пресс-центр"

15.10 "Железный фактор". Чемпионат России по бодибилдингу

15.55 Американский футбол. Обзор матчей Европейской лиги

16.25 Хоккей. Кубок Стэнли. Финал. 4-й матч. Во втором перерыве (17.45) - "Пресс-центр"

19.00 "Звездный вторник"

20.00 Программа передач на завтра

20.05 "Пресс-центр"

20.20 Волейбол. Чемпионат Италии. Мужчины. Плей-офф

21.50 "Лучшие атлеты века". "Чужой среди своих или Штангист поневоле". Р. Плюкфельдер

22.35 Американский футбол. Обзор матчей Европейской лиги

23.00 Новости

23.15 Рафтинг. Национальный отбор к чемпионату Европы

## Серада, 7

### НАШЕ КИНО

9.00 Сегодня в программе.

9.05 Сериал "Огненные барабаны". 2-я серия

9.55 КиНовости.

10.05 Пушкинский дом. Алла Демидова, Виктор Проскурин, Ирина Дымченко и Елена Гоголева в кинодраме Игоря Масленникова "Пиковая дама". 1982 г.

11.30 Пушкинский дом. Мультфильм "Я к Вам лечу воспоминаньем..." 1977 г.

12.00 Лекарство против стресса. Елена Шевченко, Валентин Гафт, Лев Дуров, Олег Табаков и Николай Фоменко в комедии Владимира Машкова "Сирота казанская". 1997 г.

13.20 Борис Щербаков, Михай Волонтир и Анатолий Кузнецов в боевике Михаила Туманишвили "Случай в квадрате 36-80". 1982 г.

14.30 Наталья Андрейченко, Игорь Костолевский и Виктор Мережко в мелодраме Эрнеста Ясана "Прости". 1986 г.

15.50 КиНовости.

16.00 Сериал "Огненные барабаны". 3-я серия

16.50 Владимир Летенков, Станислав Жданько и Леонид Каюров в кинодраме Владимира Роговго "Несовершеннолетние". 1976 г.

18.15 Киносреда: ирония судьбы. Андрей Мягков, Барбара Брыльска и Юрий Яковлев в комедии Эльдара Рязанова "Ирония судьбы, или С легким паром!" 2 серии. 1975 г.

21.25 КиНовости.

21.35 Дело №... Николай Гринько, Александр Пороховщиков и Андрей Толубеев в детективе Валерия Родченко "Два долгих гудка в тумане". 1980 г.

22.50 Завтра в программе.

22.55 Борис Щукин и Иван Коваль-Самборский в киноповести Юлия Райзмана "Летчики". 1935 г.

### МИР КИНО

9.30 Сегодня в программе.

9.35 КиНовости.

9.45 Роберт Энглунд в фильме ужасов Уэса Крейвена "Кошмар на улице Вязов-7. Новый кошмар" (США). Д-17.

11.30 Якоб Тор Эйнарссон и Эдда Бьоргвинсдоттир в историко-приключенческом фильме Храфна Гуннлаугссона "Полет ворона" (Исландия - Швеция). Д-13.

13.20 Фрэнк Сталлоне, Джо Эстевез и Карен Блэк в фантастическом фильме Дональда Джексона "Роллер-бритва" (США). Д-13.

14.55 Виктор Гербер в драме Дэвида Грина "Либерейс: втайне от музыки" (США). Д-13.

16.35 КиНовости.

16.50 Рейна Бейнолфсон и Эйгл Олафсон в историко-приключенческом фильме Храфна Гуннлаугссона "Тень ворона" (Исландия - Швеция). Д-13.

18.35 Фрэнк Сталлоне, Джо Эстевез и Карен Блэк в фантастическом боевике Дональда Джексона "Возвращение роллера-бритвы" (США). Д-13.

19.55 Кортни Б. Вэнс и Керри Фокс в драме Пола Сида "Казненная любовь" (США - Великобритания). Д-13.

21.40 КиНовости.

21.50 Лоренцо Ламас в музыкальном фильме "Ребята из "Боди-Рок" (США). Д-13. Премьера.

23.20-0.55 Пэтси Кенсит и Юрген Прохнов в остросюжетном фильме Энтони Пэйджа "Человек-бомба" (ФРГ - Великобритания). Д-13.

### СПОРТ

9.00 "Пресс-центр"

9.15 Аэробика

9.40 Американский футбол. Обзор матчей Европейской лиги

10.05 "Знакомьтесь: регбол"

11.00 "Звездный вторник"

12.00 "Пресс-центр"

12.15 Аэробика

12.40 "Лучшие атлеты века". "Чужой среди своих или Штангист поневоле". Р. Плюкфельдер

13.25 Художественная гимнастика. Чемпионат Европы. Многоборье. Финал. Передача из Испании

14.45 "Пресс-центр"

15.00 Волейбол. Чемпионат Италии. Мужчины. Плей-офф

16.30 Прыжки в воду. Чемпионат России. Мужчины. (трамплин 3 м, синхронные прыжки, финал). Женщины (трамплин 3м, финал). Передача из Электростали

18.00 "Пресс-центр"

18.15 "Мастер-класс". Шахматная школа

19.35 Трофи-рейд "Золотое кольцо-2000"

20.00 "Пресс-центр"

20.15 Программа передач на завтра

20.20 Чемпионат мира по ашихара-каратэ. Передача из Дании

22.50 Новости

23.05 Спортивные танцы. Майское Гран-при Национального клуба среди профессионалов

## Чацвер, 8

### НАШЕ КИНО

9.00 Сегодня в программе.

9.05 Сериал "Огненные барабаны". 3-я серия

9.55 КиНовости.

10.05 Владимир Летенков, Станислав Жданько и Леонид Каюров в кинодраме Владимира Рогового "Несовершеннолетние". 1976 г.

11.30 Лекарство против стресса. Андрей Мягков, Барбара Брыльска и Юрий Яковлев в комедии Эльдара Рязанова "Ирония судьбы, или С легким паром!" 2 серии. 1975 г.

14.35 Дело №... Николай Гринько, Александр Пороховщиков и Андрей Толубеев в детективе Валерия Родченко "Два долгих гудка в тумане". 1980 г.

15.50 КиНовости.

16.00 Сериал "Огненные барабаны". 4-я серия

16.50 Оксана Арбузова в мелодраме Леонида Белозоровича "Катенька". 1987 г.

18.05 Леонид Неведомский, Александр Соловьев и Алексей Эйбоженко в приключенческом фильме Валерия Михайловского "По данным уголовного розыска..." 1979 г.

19.15 Лекарство против стресса. Наталья Гундарева и Александр Михайлов в лирической комедии Самсона Самсонова "Одиноким предоставляется общежитие". 1983 г.

20.40 КиНовости.

20.50 Татьяна Ипатова и Евгений Белоногов в кинодраме Владимира Василькова "А в России опять окаянные дни". 2 серии. 1990 г.

22.45 Завтра в программе.

22.50 Памяти Сергея Курехина. Сергей Курехин и Борис Гребенщиков в музыкальной фантазии Сергея Дебижева "Два капитана - II". Россия - Германия, 1992 г.

### МИР КИНО

9.35 КиНовости.

9.45 Рейна Бейнолфсон и Эйгл Олафсон в историко-приключенческом фильме Храфна Гуннлаугссона "Тень ворона" (Исландия - Швеция). Д-13.

11.30 Фрэнк Сталлоне, Джо Эстевез и Карен Блэк в фантастическом боевике Дональда Джексона "Возвращение роллера-бритвы" (США). Д-13. Премьера.

12.50 Кортни Б. Вэнс и Керри Фокс в драме Пола Сида "Казенная любовь" (США - Великобритания). Д-13.

14.35 Пэтси Кенсит и Юрген Прохнов в остросюжетном фильме Энтони Пэйджа "Человек-бомба" (ФРГ - Великобритания). Д-13.

16.10 Лоренцо Ламас в музыкальном фильме "Ребята из "Боди-Рок" (США). Д-13.

17.45 КиНовости.

18.00 Люцина Винницка, Мечислав Войт и Анна Чепелевска в психологической драме Ежи Кавалеровича "Мать Иоанна от ангелов" (Польша). Д-17.

19.40 Джон Туртурро, Скотт Гленн и Эми Бреннеман в криминальной комедии Уильяма Де Вициа "Темные лошадки" (США). Д-17.

21.10 КиНовости.

21.25 Джейсон Александер, Дэвид Боуи и Ниа Пиплз в лирической комедии Роберта Маркарелли "Сладкая парочка" (США). Д-13. Премьера.

23.15 - 0.55 Лэнс ЛеГо, Джонатан Бэнкс и Синди Амбуэл в фантастическом боевике Ричарда Пепина "Темная порода" (США). Д-13.

### СПОРТ

4.05 Чемпионат НБА. Финал. 1-й матч. Прямая трансляция из США

По окончании трансляции в программе перерыв до 9.00

9.00 "Пресс-центр"

9.15 Аэробика

9.40 Чемпионат НБА. Финал. 1-й матч. Передача из США

12.10 "Пресс-центр"

12.25 Аэробика

12.50 Художественная гимнастика. Чемпионат Европы. Отдельные виды. Финалы. Передача из Испании

15.20 "Пресс-центр"

15.35 "Мастер-класс". Шахматная школа

15.55 Флорбол. Чемпионат мира. Передача из Норвегии. Обзор матчей с участием сборной России.

17.30 Рафтинг. Национальный отбор к чемпионату Европы

18.00 "Пресс-центр"

18.15 "Мир скорости". Тележурнал

18.45 Баскетбольное обозрение НБА

19.30 "Теннис АТР". Тележурнал

20.00 "Пресс-центр"

20.15 Программа передач на завтра

20.20 Чемпионат НБА. Финал. 1-й матч. Передача из США

22.45 Трофи-рейд "Золотое кольцо-2000"

23.00 Новости

23.15 "Теннис АТР". Тележурнал

23.45 "Мир скорости". Тележурнал

## Пятніца, 9

### НАШЕ КИНО

9.00 Сегодня в программе.

9.05 Сериал "Огненные барабаны". 4-я серия

9.55 КиНовости.

10.05 Оксана Арбузова в мелодраме Леонида Белозоровича "Катенька". 1987 г.

11.20 Леонид Неведомский, Александр 'оловьев и Алексей Эйбоженко в приключенческом фильме Валерия Михайловского "По данным уголовного розыска..." 1979 г.

12.30 Лекарство против стресса. Наталья Гундарева и Александр Михайлов в лирической комедии Самсона Самсонова "Одиноким предоставляется общежитие". 1983 г.

13.55 Татьяна Ипатова и Евгений Белоногов в кинодраме Владмира Василькова "А в России опять окаянные дни". 2 серии. 1990 г.

15.50 КиНовости.

16.00 Сериал "Огненные барабаны". 5-я серия

16.50 Черно-белое золото. Геннадий Корольков, Валентина Владимирова, Лев Прыгунов, Геннадий Сайфулин и Василий Шукшин в кинодраме Марка Осепьяна "Три дня Виктора Чернышева". 1968 г.

18.30 Владимир Борисов, Ольга Гаспарова и Юрий Григорьев в приключенческом фильме Самвела Гаспарова "Хлеб, золото, наган". 1980 г.

19.35 Кино. Между прошлым и будущим.

19.50 Лекарство против стресса. Леонид Куравлев, Евгения Симонова и Евгений Леонов в комедии Георгия Данелии "Афоня". 1975 г.

21.20 КиНовости.

21.30 Андрей Ташков, Елена Цыплакова, Елена Коренева и Алексей Жарков в комедийной мелодраме Валерия Пендраковского "Кому я должен - всем прощаю". 1998 г.

22.55 Завтра в программе.

23.00 Александр Калягин, Олег 'абаков и Любовь Полищук в кинопритче Олега Рябоконя "Эзоп". 1981 г.

### МИР КИНО

9.35 КиНовости.

9.45 Люцина Винницка, Мечислав Войт и Анна Чепелевска в психологической драме Ежи Кавалеровича "Мать Иоанна от ангелов" (Польша). Д-17.

11.25 Джон Туртурро, Скотт Гленн и Эми Бреннеман в криминальной комедии Уильяма Де Вициа "Темные лошадки" (США). Д-17.

12.55 Джейсон Александер, Дэвид Боуи и Ниа Пиплз в лирической комедии Роберта Маркарелли "Сладкая парочка" (США). Д-13.

14.45 Лэнс ЛеГо, Джонатан Бэнкс и Синди Амбуэл в фантастическом боевике Ричарда Пепина "Темная порода" (США). Д-13.

16.30 КиНовости.

16.45 Алек Болдуин, Вупи Голдберг и Джеймс Вудс в судебной драме Роба Райнера "Призраки Миссисипи" (США). Д-13.

18.50 Страна на кинокарте мира. Скандинавия.

19.45 Аннэк ван дер Лип, Ларс Симонсен и Хелен Эгелунд в мелодраме Нильса Малмроса "Барбара" (Дания). Д-17.

22.05 КиНовости.

22.15 Рейчел Гриффитс и Дэвид Робертс в фантастической комедии Пипа Кэрмела "Я, опять я, и снова я" (Австралия - Франция). Д-17. Премьера.

0.00 - 1.40 Патрик Суэйзи в триллере Дэвида Карсона "Письма убийцы" (Великобритания - США). Д-13.

### СПОРТ

3.00 Хоккей. Кубок Стэнли. Финал. 5-й матч. Прямая трансляция

По окончании трансляции в программе перерыв до 9.00

9.00 "Пресс-центр"

9.15 Аэробика

9.40 Хоккей. Кубок Стэнли. Финал. 5-й матч

12.10 "Пресс-центр"

12.25 Аэробика

12.50 Американский футбол. Обзор матчей Европейской лиги

13.15 Баскетбольное обозрение НБА

13.45 "Теннис АТР". Тележурнал

14.15 "Мир скорости". Тележурнал

14.45 Трофи-рейд "Золотое кольцо-2000"

15.00 "Пресс-центр"

15.15 Флорбол. Чемпионат мира. Финал. Передача и Норвегии

17.05 "Тайский бокс"

18.00 "Пресс-центр"

18.15 Спортивные танцы. "Снежный бал". Открытый чемпионат Канады. Европейская программа.

19.10 "Power Week- неделя НХЛ"

20.00 "Пресс-центр"

20.15 Программа передач на завтра

20.20 Баскетбольное обозрение WNBA

20.50 Хоккей. Кубок Стэнли. Финал. 5-й матч

23.20 Новости

23.35 Каратэ-до. Чемпионат России. Передача из Москвы.

## Субота, 10

### НАШЕ КИНО

9.00 Сегодня в программе.

9.05 Сериал "Огненные барабаны". 5-я серия

9.55 КиНовости.

10.05 Черно-белое золото. Геннадий Корольков, Валентина Владимирова, Лев Прыгунов, Геннадий Сайфулин и Василий Шукшин в кинодраме Марка Осепьяна "Три дня Виктора Чернышева". 1968 г.

11.45 Владимир Борисов, Ольга Гаспарова и Юрий Григорьев в приключенческом фильме Самвела Гаспарова "Хлеб, золото, наган". 1980 г.

12.50 Кино. Между прошлым и будущим.

13.05 Лекарство против стресса. Леонид Куравлев, Евгения Симонова и Евгений Леонов в комедии Георгия Данелии "Афоня". 1975 г.

14.35 Андрей Ташков, Елена Цыплакова, Елена Коренева и Алексей Жарков в комедийной мелодраме Валерия Пендраковского "Кому я должен - всем прощаю". 1998 г.

16.00 Владислав Дворжецкий, Георгий Вицин, Олег Даль и Юрий Назаров в фантастико-приключенческом фильме Альберта Мкртчяна и Леонида Попова "Земля Санникова". 1972 г.

17.30 Сергей Лукьянов, Борис Андреев, Алексей Баталов, Клара Лучко и Елена Добронравова в кинороманe Иосифа Хейфица "Большая семья". 1954 г.

19.10 Лекарство против стресса. Людмила Гурченко и Олег Басилашвили в лирической комедии Эльдара Рязанова "Вокзал для двоих". 2 серии. 1982 г.

21.20 Екатерина Гусева, Ольга Остроумова, Евгений Миронов, Сергей Маховиков и Дмитрий Марьянов в триллере Николая Лебедева "Змеиный источник". 1997 г.

22.50 Завтра в программе.

22.55 Борис Ташкентский в музыкальном фильме Николая Соловцова "Черный жемчуг". 1999 г.

### МИР КИНО

9.35 Патрик Суэйзи в триллере Дэвида Карсона "Письма убийцы" (Великобритания - США). Д-13.

11.15 Аннэк ван дер Лип, Ларс Симонсен и Хелен Эгелунд в мелодраме Нильса Малмроса "Барбара" (Дания). Д-17.

13.35 Алек Болдуин, Вупи Голдберг и Джеймс Вудс в судебной драме Роба Райнера "Призраки Миссисипи" (США). Д-13.

15.45 Страна на кинокарте мира. Австралия.

16.55 Рейчел Гриффитс и Дэвид Робертс в фантастической комедии Пипа Кэрмела "Я, опять я, и снова я" (Австралия - Франция). Д-17.

18.40 На тропе войны в "Мире кино". Гойко Митич в вестерне "Сыновья Большой Медведицы" (ГДР - Югославия). С.

20.10 Сделано в Голливуде. 1980 г.

20.35 Джереми Пайвен, Келли Уильямс, а также Ричард Аттенборо в психологической драме Бенджамина Фрайя "Формула успеха" (Великобритания). Д-13.

22.10 Джек Николсон, Пирс Броснан, Гленн Клоуз, Дэнни Де Вито и др. в фантастической комедии Тима Бартона "Марс атакует!" (США). С.

23.55-1.30 Кирстен Данст, Линн Редгрейв и Габи Хоффман в комедии "Заговор проказниц" (Канада - Италия - США). Д-13. Премьера.

### СПОРТ

4.05 Баскетбол. Чемпионат НБА. Финал. 2-й матч. Прямая трансляция из США

По окончании трансляции в программе перерыв до 9.00

9.00 "Пресс-центр"

9.15 Аэробика

9.40 Баскетбол. Чемпионат НБА. Финал. 2-й матч. Передача из США

12.10 "Пресс-центр"

12.25 Аэробика

12.50 "Power Week- неделя НХЛ"

13.40 Баскетбольное обозрение WNBA

14.15 "Лучшие атлеты века". "Чужой среди своих или Штангист поневоле". Р. Плюкфельдер

15.00 "Пресс-центр"

15.15 "Короли бильярда"

15.45 Спортивные танцы. "Снежный бал". Открытый чемпионат Канады. Латиноамериканская программа

16.40 Баскетбол. Чемпионат НБА. Финал. 2-й матч. Передача из США

19.10 "Пресс-центр"

19.25 Программа передач на завтра

19.30 "Большой ринг"

21.30 "На пути в Сидней"

22.15 "Тайский бокс"

23.10 Новости

23.25 "Спортивный глобус"

## Нядзеля, 11

### НАШЕ КИНО

9.05 Владислав Дворжецкий, Георгий Вицин, Олег Даль и Юрий Назаров в фантастико-приключенческом фильме Альберта Мкртчяна и Леонида Попова "Земля Санникова". 1972 г.

10.35 Сергей Лукьянов, Борис Андреев, Алексей Баталов, Клара Лучко и Елена Добронравова в кинороманe Иосифа Хейфица "Большая семья". 1954 г.

12.15 Лекарство против стресса. Людмила Гурченко и Олег Басилашвили в лирической комедии Эльдара Рязанова "Вокзал для двоих". 2 серии. 1982 г.

14.30 Екатерина Гусева, Ольга Остроумова, Евгений Миронов, Сергей Маховиков и Дмитрий Марьянов в триллере Николая Лебедева "Змеиный источник". 1997 г.

16.00 Елена Проклова, Алексей Петренко, Лидия Федосеева-Шукшина, Елена Цыплакова и Марина Левтова в кинодраме Динары Асановой "Ключ без права передачи". 1976 г.

17.35 Лекарство против стресса. Вячеслав Невинный, Александр Калягин, Ирина Мирошниченко, Евгений Евстигнеев и Георгий Бурков в комедии Олега Ефремова и Наума Ардашникова "Старый новый год". 2 серии. 1980 г.

19.50 Дело № ... Семен Фарада, Евгений Леонов-Гладышев и Лев Дуров в детективе Бориса Небиеридзе "Алмазы шаха". 1992 г.

21.45 Татьяна Васильева и Михаил Державин в комедийной мелодраме Анатолия Эйрамджана "Ночной визит". 1998 г.

22.50 Завтра в программе.

22.55 Алика Смехова в триллере Александра Баранова и Бахыта Килибаева "Женщина дня". 1989 г.

### МИР КИНО

9.35 На тропе войны в "Мире кино". Гойко Митич в вестерне "Сыновья Большой Медведицы" (ГДР - Югославия). С.

11.05 Сделано в Голливуде. 1980 г.

11.30 Кирстен Данст, Линн Редгрейв и Габи Хоффман в комедии "Заговор проказниц" (Канада - Италия - США). Д-13.

13.05 Джереми Пайвен, Келли Уильямс, а также Ричард Аттенборо в психологической драме Бенджамина Фрайя "Формула успеха" (Великобритания). Д-13.

14.40 Страна на кинокарте мира. Великобритания.

15.35 Джек Николсон, Пирс Броснан, Гленн Клоуз, Дэнни Де Вито и др. в фантастической комедии Тима Бартона "Марс атакует!" (США). С.

17.20 На тропе войны в "Мире кино". Гойко Митич в вестерне Рихарда Грошоппа "Чингачгук - Большой Змей" (ГДР). С.

18.45 Дастин Хоффман и Роберт Редфорд в политическом детективе Алана Пакулы "Вся президентская рать" (США). Д-17.

21.00 Том Круз и Ребекка Де Морнэй в приключенческой комедии Пола Брикмена "Рискованный бизнес" (США). Д-17.

22.35 Оливье Грюнер и Роберт Таунсенд в боевике Филиппа Моры "Наемник-2" (США). Д-13.

0.15 Джефф Голдблюм и Джули Хагерти в комедии Роберта Олтмена "Неизлечимые" (США). Д-13. Премьера.

1.45 Программа передач на неделю.

### СПОРТ

3.00 Хоккей. Кубок Стэнли. Финал. 6-й матч. Прямая трансляция

По окончании трансляции в программе перерыв до 9.00

9.00 "Пресс-центр"

9.15 Аэробика

9.40 Хоккей. Кубок Стэнли. Финал. 6-й матч

11.55 Чемпионат России по кольцевым автогонкам. Прямая трансляция с автодрома "Ходынка". В перерывах (12.45) и (15.45) - "Пресс-центр"

17.00 Гандбол. Чемпионат России. Мужчины. "ЦСКА-Спортакадемклуб" (Москва)- "Каустик- СК ЖДВ" (Волгоград). Передача из Универсального спортивного комплекса ЦСКА

18.15 "Пресс-центр"

18.30 "На пути в Сидней"

19.15 "Шахматное обозрение"

19.45 "Кто они, чемпионы?"

20.05 "Пресс-центр"

20.20 Программа передач на завтра

20.25 "Мир скорости". Тележурнал

21.00 "Еще неделя позади..."

21.30 Хоккей. Кубок Стэнли. Финал. 6-й матч. В перерыве (23.00) - Новости

